Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 4 (4804) 30 студзеня 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні родным і блізкім Дэміса Русаса ў сувязі са смерцю спевака. «Гэты артыст пакінуў яркі след у сусветным музычным мастацтве і ўвайшоў у гісторыю як адзін з самых цудоўных эстрадных спевакоў, чыя ўнікальная манера выканання, прасякнутая непаўторнай эмацыянальнасцю, паланіла душы мільёнаў слухачоў на ўсёй планеце», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Прэзідэнцкаму аркестру Рэспублікі Беларусь за высокія дасягненні ў галіне музычнага мастацтва і значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры прысвоена званне «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь». За 12 гадоў існавання аркестр браў удзел у больш як 500 мерапрыемствах, правёў пяць вялікіх тураў па Беларусі, гастраліраваў у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Польшчы, Малдове, Іране.

✔ Стыпендыі Прэзідэнта Беларусі назначаны 95 аспірантам. Гэта — прадстаўнікі фізіка-матэматычных, тэхнічных, хімічных, біялагічных, медыцынскіх, аграрных, сацыяльных і гуманітарных навук, навук пра Зямлю, якія выконваюць даследаванні па прыярытэтных напрамках навуковай і навукова-тэхнічнай дзейнасці.

✔ Інфармацыйным ведамствам Беларусі і Расіі трэба рухацца разам, апярэджваючы сучасныя інфармацыйныя працэсы. Такое меркаванне выказала міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч на сустрэчы ў Мінску з міністрам сувязі і масавых камунікацый Расійскай Федэрацыі Мікалаем Нікіфаравым. Паводле яе слоў, супрацоўніцтва дзвюх краін у інфармацыйнай сферы ніколі не перапынялася. Расійскіх гасцей чакаюць на XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы і на Першым міжнародным сімпозіуме літаратараў «Пісьменнік і час», які пройдзе падчас выстаўкі.

✔ Беларусь і Францыя ў найбліжэйшы час могуць падпісаць пагадненне аб супрацоўніцтве ў сферы турызму. Гаворка пра гэта ішла на сустрэчы Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі з намеснікам дырэктара Дэпартамента прадпрыемстваў і міжнародных эканамічных адносін МЗС Францыі Стэфанам Маркізіа.

✔ Конкурс сярод выкладчыкаў Беларусі і Расіі на тэму Вялікай Айчыннай вайны плануецца правесці сёлета падчас святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі. У межах Саюзнай дзяржавы распрацаваны план сумесных мерапрыемстваў, прымеркаваных да ўрачыстай даты. Запланаваны і медыятур у Ржэў — месца баявых дзеянняў у першыя гады вайны.

✔ У Маскве адбылася прэм'ера беларуска-ізраільскага дакументальнага фільма «Захавальнікі памяці» рэжысёра Барыса Мафцыра. Паказ прайшоў у Расійскім дзяржаўным гуманітарным універсітэце пры спрыянні дырэкцыі міжнароднага праекта «Культура без межаў» пад эгідай ЮНЕСКА і Міжнароднага культурнага цэнтра імя Саламона Міхоэлса.



Алена Сысун «Фарматаванне свядомасці» (фрагмент).

# У новым фармаце

**Персанальная выстаўка Алены Сысун адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Творца прадставіла каля 60 работ, выкананых у тэхніцы калажу.**

Алена Сысун — яркі прадстаўнік беларускага авангарда. Калажы стварае з абрэзкаў тканіны. Растачоныя рознакаляровыя лапікі мастачка пяшчотна збірае ў адзінае кампазіцыйнае цэлае… Нараджаюцца непаўторныя вобразы, цікавыя сюжэты.

Экспазіцыя «Збіраючы растачонае» нагадвае яскравы калейдаскоп, дзе нечакана суседнічаюць зусім непадобныя творы. Вызначыць іх нейкім агульным стылёвым кірункам вельмі складана. Тэматыка работ розная. Ёсць і біблейскія сюжэты: «Ноеў каўчэг», «Успамінаючы рай», «Пасля патопу», «Наіўнасць прабацькоў» ды інш.

Чытайце на стар. 13 ▶



















*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Паэт з эпохі кніжных скарбаў

**Алесь Бадак — паэт, празаік, публіцыст, літаратурны крытык. Шмат піша для дзяцей. У яго біяграфіі — праца ў рэдакцыях часопісаў «Бярозка», «Полымя», «Маладосць», пасада галоўнага рэдактара часопіса «Нёман». Сёння ён намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Полымя». Лаўрэат літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» у намінацыі «Публіцыстыка» (2008), Міждзяржаўнай прэміі СНД «Зоркі Садружнасці» (2014). Летась Алесь Мікалаевіч уганараваны медалём Францыска Скарыны. Пра ўзнагароду, працу і творчасць — наша гутарка.**



— Для любога чалавека, незалежна ад таго, займаецца ён творчай або фізічнай працай, узнагарода заўсёды мае значэнне. Яна паказвае: тое, што ты робіш, патрэбна не толькі табе. Мне, увогуле, вельмі прыемна, што гэты медаль носіць імя Францыска Скарыны, які першым сярод беларусаў пачаў выдаваць кнігі ва Усходняй Еўропе. Прайшло столькі часу, а кніга па-ранейшаму патрэбная не адно вузкаму колу чытачоў, а грамадству ў цэлым. Як і шмат стагоддзяў таму, яна ўплывае на душу і сэрца кожнага.

**— Алесь Мікалаевіч, з чаго пачаўся ваш шлях у літаратуру?**

— Яшчэ пяцікласнікам я стаў пісаць вершы. Першыя пробы пяра пасылаў у газету «Піянер Беларусі». І мне вельмі пашанцавала, што ў тагачаснай рэдакцыі працаваў малады паэт Алесь Емяльянаў, якога я, школьнік, лічыў вялікім аўтарытэтам у літаратуры. Ён пісаў мне доўгія цікавыя лісты, вучыў класічнаму вершаскладанню, прыдумляючы розныя заданні. Я старанна выконваў іх, прыслухоўваўся да кожнай парады. Упэўнены, што пачатак шляху ў літаратуру ўва многім вызначаюць тыя, з кім сустракаешся на гэтай дарозе. Мудрыя людзі заўсёды дапамогуць добрай парадай, паспрыяюць першай публікацыі… Я ніколі пра гэта не забываўся, тым больш што пасля заканчэння філфака Белдзяржуніверсітэта дзесяць гадоў працаваў у рэдакцыі часопіса «Бярозка». Можна пражыць усё жыццё, не ведаючы, што ты паэт. І наадварот: усё жыццё лічыш сябе паэтам, а ўрэшце аказваецца, што лепш было займацца якой-небудзь іншай справай.

Магчымасці сённяшняй моладзі шырэйшыя, чым тыя, што былі ў пакалення васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя: цяпер шмат дзяржаўных і прыватных выдавецтваў, перыядычных выданняў, ёсць інтэрнэт. Бывае, прагладаю паліцы кнігарань... У якіх прыгожых цвёрдых вокладках выходзяць кнігі аўтараў, якім сёння крыху больш за дваццаць! У наш час выдаць кнігу ў такім узросце было проста нерэальна. Я ўступіў у Саюз пісьменнікаў СССР у 1990-м, у 23 гады, і быў там самым маладым паэтам. Але не шкадую, што прыйшоў у літаратуру менавіта ў той час, калі кніга была сапраўды духоўным скарбам.

**— Што, на ваш погляд, робіць пісьменніка пісьменнікам?**

— Важна мець свой літаратурны голас. У маім разуменні самабытны, арыгінальны аўтар — той, чый стыль пазнаецца з першых старонак. Гэта датычыць і паэзіі, і прозы. Акрамя таго, вельмі важна патрапіць у «сваю» эпоху: кожная ж мае пэўную спецыфіку, асаблівасці. Толькі адчуваючы рытм і дух канкрэтнай эпохі, можна стварыць нешта арыгінальнае, чаго да цябе ў літаратуры не было. Прыкладам, Уладзімір Караткевіч, пішучы на гістарычныя тэмы, выдатна адчуваў «пульс» таго часу, які адлюстроўваў у творах, але заставаўся пры гэтым пісьменнікам эпохі, у якую жыў, яго творы былі вельмі актуальныя для яе.

**— Якія кнігі любіце чытаць?**

— Арыгінальныя: раманы, фантастыку, дэтэктывы… Вельмі люблю, калі ў пісьменніка добры стыль. Пра гэта мала гавораць крытыкі, стыль увогуле даследуецца мала, але насамрэч адыгрывае ў творчасці выключную ролю. Люблю перачытваць Уладзіміра Набокава, Міларада Павіча. З беларускіх аўтараў — Міхася Стральцова. А ўвогуле, усё залежыць ад стану душы: часам хочацца ўзяць у рукі томік Багдановіча. Часам — што-небудзь Брыля ці Адамчыка, Чорнага ці Танка…

Мая праца шмат гадоў звязана з рукапісамі: чытаю, рэдагую… І да мастацкіх твораў, ужо выдадзеных асобнымі кнігамі і нават папулярных, падсвядома стаўлюся не толькі як чытач, але і як рэдактар. Таму асабіста мне блізкія не ўсе класікі. Затое пастаянна цікаўлюся новымі літаратурнымі кірункамі. І калі сёння бракуе новых яркіх твораў на сучасныя тэмы, то перш за ўсё таму, што вельмі цяжка адчуць подых нашай хуткаплыннай, зменлівай эпохі.

**— А што цікавага бліжэйшым часам прапануе «Полымя»?**

— Мы імкнёмся друкаваць лепшае, што пішуць сучасныя паэты, празаікі. Разам з тым не забываем і пра маладых. Напрыклад, у сакавіцкім нумары плануем падборку апавяданняў маладых празаікаў. Вялікую ўвагу надаём і творчай спадчыне айчынных пісьменнікаў. З першага нумара пачалі друкаваць ваенныя і пасляваенныя дзённікі выбітнага празаіка Міколы Лобана, якія адшукаў у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва пісьменнік Аляксандр Вашчанка. Дарэчы, пісаць дзённікі на фронце забаранялася, таму гэта — найкаштоўнейшая рэч. Захавалася дзевяць агульных сшыткаў вершаў і прозы былога намесніка галоўнага рэдактара «Полымя» Уладзіміра Марука: многія творы, як аказалася, ніколі не друкаваліся. Думаю, павінна зацікавіць чытача і дыскусія, якую мы пачалі з першага нумара, — пра беларускую літаратуру і адносіны да яе ў грамадстве.

**— Як рэдакцыя «Полымя» рыхтуецца да Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу?**

— Для супрацоўнікаў рэдакцыі гэта выдатная магчымасць сустрэцца з калегамі — прадстаўнікамі блізкага і далёкага замежжа. У часопісе ёсць пастаянная рубрыка «Галасы свету», дзе рэгулярна друкуюцца творы замежных пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову. Чакаецца прыезд на міжнародны кніжны форум як вядомых у нашай краіне замежных пісьменнікаў, так і тых, хто наведае Беларусь упершыню. Плануем наладзіць кантакты для далейшага творчага супрацоўніцтва.

**Яна ЯВІЧ**

# Культура і спонсары

**У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы спецыяльнымі дыпломамі ўзнагароджаны мецэнаты культуры Беларусі. Напярэдадні тут прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная ўрачыстай падзеі.**

Першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына Дрыга, распавядаючы гісторыю правядзення акцыі па ўшанаванні мецэнатаў, ініцыяванай Міністэрствам культуры, зазначыла: упершыню мецэнаты культуры былі ўганараваны ў 2012-м. Іх падтрымка паспрыяла рэалізацыі шмат якіх праектаў. Летась аб'ём спонсарскіх сродкаў склаў каля 50 мільярдаў рублёў. Ладзіліся буйныя фестывалі, адкрываліся выстаўкі, створана экспазіцыя ў Брэсцкай крэпасці і г. д. Падтрымліваліся і такія міжнародныя падзеі, як кінафорум «Лістапад», міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», Міжнародны фестываль Юрыя Башмета ды інш.

Для прыцягнення мецэнатаў у сферу культуры дзейнічаюць падатковыя льготы для арганізацый-спонсараў, а таксама палажэнне аб апякунскіх саветах ва ўстановах культуры. У склад гэтых саветаў могуць уваходзіць прадстаўнікі бізнесу і дзяржаўных структур. Паводле І. Дрыгі, апошнім часам у нашай краіне ўзрасла сацыяльная адказнасць прадстаўнікоў дзелавой сферы.

Ірына Уладзіміраўна лічыць мэтазгодным штогадовае ўзнагароджанне мецэнатаў. Але перыядычнасць правядзення акцыі шмат у чым залежыць ад узроўню развіцця прыватна-дзяржаўнага партнёрства. Сёння ў Беларусі заўважна палепшыліся ўмовы мецэнацкай дзейнасці. Спонсарская падтрымка распаўсюджваецца амаль што на ўсе віды творчай і культурнай дзейнасці — ад захавання гісторыка-культурнай спадчыны да правядзення буйных культурных мерапрыемстваў.

Магчымасць стварэння апякунскіх саветаў пры тэатрах і музеях цяпер замацавана заканадаўча. Так, генеральны дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Павел Палякоў распавёў: за год працы апякунскага савета тэатра практычна поўнасцю за спонсарскія сродкі быў пастаўлены спектакль «Тата». П. Палякоў прапанаваў пашырыць пералік сфер дзейнасці тэатра, у межах якіх магчыма аказанне спонсарскай дапамогі.

Намеснік дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц галоўным мецэнатам тэатра назваў дзяржаву. З дапамогай спонсараў праведзены Мінскі міжнародны Калядны оперны форум, Вялікі навагодні баль. Генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў распавёў пра планы сваёй установы, якія будуць увасоблены з дапамогай мецэнатаў у 2015 — 2016 гадах. Мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі Юрый Гільдзюк зазначыў: пры садзейнічанні мецэнатаў важна падтрымліваць не толькі слынныя імёны, але і таленавітую моладзь.

Падчас цырымоніі ўзнагароджання з прывітальным словам да прысутных звярнуўся міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў: «Сёння ў нашай краіне традыцыі мецэнацтва адраджаюцца ў новых, сучасных формах: бязвыплатную дапамогу культуры цяпер аказваюць, у першую чаргу, флагманы беларускага бізнесу, арганізацыі розных форм уласнасці, кіраўнікам якіх уласцівае пачуццё сацыяльнай адказнасці і неабыякавае стаўленне да лёсу Айчыны».

За значны ўклад у развіццё беларускай культуры ганаровымі дыпламамі «Мецэнат культуры Беларусі 2014 года» ўзнагароджаны адкрытыя акцыянерныя таварыствы «Белгазпрамбанк», «Газпрам трансгаз Беларусь», «Беларуськалій», «Гродна Азот», «Банк БелВЭБ».

За асабісты ўнёсак у развіццё і дабрачынную падтрымку беларускай культуры ганаровыя дыпломы ўручаны генеральнаму дырэктару ААТ «Газпрам трансгаз Беларусь» Уладзіміру Маёраву і старшыні праўлення ААТ «Белгазпрамбанк» Віктару Бабарыку.

Сярод прадпрыемстваў, узнагароджаных дыпломамі «Мецэнат культуры Беларусі 2014» за аказанне падтрымкі ў правядзенні свята «Купалле («Александрыя збірае сяброў»), — адкрытыя акцыянерныя таварыствы «Ашчадны банк «Беларусбанк», «Белаграпрамбанк», «Беларускі банк развіцця і рэканструкцыі «Белінвестбанк», «Прыёрбанк», «Беларуская валютна-фондавая біржа», «Акцыянерны банк рэканверсіі і развіцця».

За ўклад у развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне культуры і падтрымку значных праектаў, якія праводзяцца ў нашай краіне, дыпломы мецэнатаў культуры ўручаны прадстаўніцтвам кампаній «Siemens», TZMO S.A., прадстаўніцтву ААТ «Хімічны завод «Гедэон Рыхтэр» (Венгрыя) ў Рэспубліцы Беларусь, ЗТАА «Japan Tobacco International» ды іншым.

За аказанне падтрымкі ў правядзенні наватарскіх культурных праектаў дыпломамі ўганараваны ЗАТ «BelSwissBank», ТАА «АСБ Лізінг», ЗАТ «Банк ЗГБ (Беларусь)», ААТ «Банк развіцця Рэспублікі Беларусь», КВУП «Мінскрэклама», ААТ «Белмагістральаўтатранс», ААТ «Авіякампанія «Белавія», дзяржаўнае аб'яднанне «Беларуская чыгунка».

Сярод тых, хто атрымаў дыплом за ўклад у развіццё і папулярызацыю нацыянальнай культуры, — Міжнародны сацыяльна-эканамічны фонд «Ідэя», ААТ «Амкадор» — кіруючая кампанія холдынгу», Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі ды іншыя прадпрыемствы.

**Яна ЯВІЧ**

# Ад Камісіі па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці

Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі разгледзела матэрыялы па работах, творах і кандыдатах, якія вылучаны на саісканне прафсаюзных прэмій 2015 года, і паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на саісканне прэмій дапушчаны:

**I. За творы прозы, паэзіі і драматургіі**
(адна прэмія):

1. **Вольга Астапенка** — за кнігу вершаў «Проходя сквозь свет» (Мінск, «Кнігазбор», 2011);
2. **Людміла Дзямідава** — за зборнік вершаў «Времена года» (Дрыбін, 2012);
3. **Фёдар Палачанін** — за кнігі «Зраненае сэрца: драматургія» (Мінск, «Кнігазбор», 2011) і «Дарога ў неба: драматургія» (Мінск, «Кнігазбор», 2014).

**II. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць**
(адна прэмія):

1. **Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча ўстановы «Беларуская дзяржаўная ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармонія»** — за стварэнне тэтралогіі «Святое, незабыўнае …» (снежань 2010 — снежань 2012 гг.).

**III. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва**
(адна прэмія):

1. **Уладзімір Мароз** (аўтар сцэнарыяў), **Яўген Сяцько** (кінарэжысёр) і **Станіслаў Смірноў** (кінааператар) — за стварэнне цыкла дакументальных фільмаў «У пошуках новай зямлі», «Беларусь. 4 гады вайны», «Леанід Дранько-Майсюк. Бязмежнае» (2011 — 2013 гг.);
2. **Мікалай Пінігін** (рэжысёр-пастаноўшчык), **Святлана Анікей** і **Аляксандр Падабед** (выканаўцы галоўных роляў) — за стварэнне яркіх вобразаў у спектаклі «Пан Тадэвуш» паводле аднайменнай паэмы А. Міцкевіча ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы (студзень 2014 г.);
3. **Віктар Клімчук** (рэжысёр-пастаноўшчык) і **Яўгеній Гусеў** (выканаўца галоўнай ролі) — за пастаноўку спектакля «Нататкі вар'ята» паводле аднайменнай аповесці М. В. Гогаля ў Беларускім тэатры «Лялька» (2012 г.).

**IV. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва**
(адна прэмія):

1. **Раман Коршунаў** — за серыю жывапісных работ «Дарога да храма» (2014 г.);
2. **Юрый Хілько** — за мастацкае афармленне і ілюстрацыі камплекта кніг Максіма Багдановіча «Раманс», «Пагоня» і «Слуцкія ткачыхі» (2011 г.);
3. **Вячаслаў Шамшур** — за стварэнне серыі твораў «Віцебск і Віцебшчына» (2011 — 2013 гг.).

**V. За лепшы твор аб прафсаюзах**
(адна прэмія):

1. **Надзея Грыб** — за кнігу «Профсоюзному движению Беларуси — 110 лет» (Мінск, УП «Выдавецкі дом «Праф-Прэс»», 2014);
2. **Лідзія Максімава** і **Яўгеній Туромша** — за стварэнне кнігі «Иллюстрированная хронология истории профсоюзной организации БГУ. Отражение времени в архивных и фотодокументах» (Мінск, Выд. цэнтр БДУ, 2014).

**VI. За актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных**
(адна прэмія):

1. **Пётр Атрошанка** — старшыня прафсаюзнага камітэта Мінскага РУП электраэнергетыкі «Мінскэнерга» Маладзечанскія электрычныя сеткі;
2. **Яўгеній Барсукоў** — дырэктар Рэспубліканскага Палаца культуры ветэранаў;
3. **Васіль Бойка** — старшыня адзінай арганізацыі прафсаюза Брэсцкага філіяла РУП «Белтэлекам»;
4. **Іван Каваленка** — дырэктар Культурна-спартыўнага комплексу транспартнага РУП «Гомельскае аддзяленне Беларускай чыгункі».

**VII. За выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці**
(адна прэмія):

1. **Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь «Скарбонка»** філіяла Гомельскія цеплавыя сеткі РУП «Гомельэнерга»;
2. **Народны аматарскі калектыў беларускага тэатра «Валянцін»** УК «Магілёўскі гарадскі Цэнтр культуры і вольнага часу»;
3. **Народны вакальны ансамбль «Белы Птах»** філіяла ААТ «Мінскі трактарны завод» «Культсэрвіс МТЗ»;
4. **Узорны музычны тэатр «Папяровая фантазія»** Дома культуры энергетыкаў аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Светлагорскага райвыканкама;
5. **Харэаграфічны ансамбль «Забавушкі»** ДУА «Магілёўская дзіцячая школа мастацтваў № 3 імя М. М. Салдатава».

**VIII. У галіне журналістыкі**
(адна прэмія):

1. **Таццяна Сычкова** — за цыкл матэрыялаў, прысвечаных людзям працы — урачам і настаўнікам, апублікаваны ў газеце «Гомельскія ведамасці» ў 2013 — 2014 гг.;
2. **Дзмітрый Чарняўскі** — за цыкл матэрыялаў, прысвечаных людзям цікавых і незвычайных прафесій, і цыкл публікацый пра ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, апублікаваны ў газеце «Гомельскія ведамасці» ў 2013 г.;
3. **Міхаіл Шубіч** — за цыкл матэрыялаў пад рубрыкай «Социальное партнерство. Патриотизм и гражданственность», апублікаваны ў Баранавіцкай аб'яднанай газеце «Наш край» у 2013 — 2014 гг.

Камісія звяртаецца з просьбай да творчых саюзаў, культурна-асветных устаноў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый, калектываў прадпрыемстваў і навучальных устаноў, грамадзян рэспублікі правесці абмеркаванне кандыдатур на саісканне прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2015 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці.

Вашы прапановы, водгукі, заўвагі просім накіраваць да 1 сакавіка 2015 г. на адрас: Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Камісія па прэміях ФПБ (пакой 915), пр-т Пераможцаў, 21, 220126, г. Мінск, тэл. 203 95 83.

# Мы любілі Вас...



Закончылася зямное жыццё шчырай руплівіцы беларускай літаратуры Маргарыты Барысаўны Яфімавай. Яе трапяткое, пяшчотнае сэрца прыпынілася 21 студзеня 2015 года, на 88-м годзе жыцця. Цяжка змірыцца з думкай, што ўжо ніколі не пачуем яе мілагучны голас, не ўбачым яе мілую ўсмешку.

Сам лёс наканаваў Маргарыце Барысаўне стаць выдатным педагогам. Яна і нарадзілася ў сям'і настаўнікаў, вучылася ажно ў трох школах. Усё жыццё Маргарыты Барысаўны звязана з вялікай педагогікай: студэнтка БДУ, аспірантка, выкладчык кафедры беларускай літаратуры, дацэнт, кандыдат педагагічных навук. Педагог, вучоная, маючы ўжо дзетак, яна прысягнула на вернасць менавіта дзіцячай літаратуры.

Сёння ў творчых здабытках пісьменніцы Маргарыты Яфімавай выбітныя кнігі: «Цэлы свет — дзецям», «Янка Маўр», «Літаратурныя вечары ў школе», «Гучыць жывое слова», «З верай у дзіцячае сэрца». Яна ўкладальнік і аўтар шматлікіх артыкулаў у аб'ёмных падручніках і хрэстаматыях «Беларуская дзіцячая літаратура». Сам Янка Маўр прысутнічаў і выступаў на абароне яе кандыдацкай дысертацыі. Маргарыта Барысаўна пранікнёнымі прадмовамі благаславіла ў свет кнігі Васіля Віткі, Алены Васілевіч, Алеся Якімовіча, Паўла Кавалёва і іншых пісьменнікаў. Пра многіх аўтараў напісала творчыя партрэты, а пра іх творы — удумлівыя рэцэнзіі. Мая асабістая ўдзячнасць ёй за кнігу «Не выжываю, а жыву!..»

З Маргарытай Барысаўнай мы бывалі ў розных дзіцячых аўдыторыях, і я заўсёды захапляўся яе педагагічным талентам. Нездарма ж яна шмат гадоў вяла ў БДУ студэнцкі практыкум па мастацкім чытанні, кіравала тэатральнай студыяй «Летуценнікі». Ведала на памяць шмат вершаў, песень, у яе было шмат задум...

Не, такія людзі, як Маргарыта Барысаўна, не паміраюць. Яе імя застаецца ў кнігах, у памяці чытачоў розных узростаў.

Заўсёдная ўдзячнасць Маргарыце Барысаўне ад «вясёлкаўцаў». Яна шмат гадоў была актыўным членам рэдкалегіі, аўтарам і дарадцам дзіцячага часопіса «Вясёлка». Мы ўсе: супрацоўнікі, пісьменнікі, мастакі — шчыра любілі Вас, шаноўная Маргарыта Барысаўна. І будзем любіць, бо ведаем: жыццё кожнага чалавека дачасна столькі, колькі жыве Памяць пра яго.

**Уладзімір ЛІПСКІ**

**Маргарыце Яфімавай**

*Адыходзяць сябры,*
*адыходзяць.*
*Накірунак на неба бяруць.*
*На зямлю светлым*
*промнем прыходзяць,*
*А іх душы ў творах*
*жывуць.*

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці пісьменніцы Маргарыты Барысаўны ЯФІМАВАЙ і выказваюць шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

Філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта і кафедра беларускай літаратуры і культуры глыбока смуткуюць з прычыны смерці члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, літаратуразнаўцы, крытыка, ветэрана працы, заснавальніцы філфакаўскага тэатра-студыі «Летуценнікі», дацэнта Маргарыты Барысаўны ЯФІМАВАЙ, якая шмат гадоў працавала на філфаку БДУ, і выказваюць спачуванні яе родным і блізкім.

РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»» выказвае шчырыя спачуванні намесніку дырэктара — галоўнаму рэдактару часопіса «Алеся» Ларысе Паўлаўне РАКОЎСКАЙ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці СЫНА.

# Музычныя сустрэчы ў Заслаўі

Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга распачаў творчы год Святам музыкі «Заслаўе-2015».

Арганізатары Свята музыкі — Мінскі абласны выканаўчы камітэт, Мінскі раённы выканаўчы камітэт, Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі.

Фестываль адкрыўся абласным конкурсам юных выканаўцаў дзіцячых школ мастацтваў Мінскай вобласці «Заслаўскі сшытак». Затым адбыўся канцэрт выканаўцаў на духавых музычных інструментах Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра. Сярод выступоўцаў — ансамблі трубачоў (пад кіраўніцтвам М. Волкава), флейтыстаў (пад кіраўніцтвам В. Скараходава), кларнетыстаў (пад кіраўніцтвам Г. Казадоя).

У Заслаўскай дзіцячай школе мастацтваў адкрылася выстаўка «Родны край» мастачак Кацярыны і Дар'і Сумаравых. Гасцей чакаў канцэрт «Памятныя падзеі Беларускага музычнага свету». А завяршыўся музычны дзень канцэртам сучаснай песні «Музычныя сустрэчы на Заслаўшчыне» ў гарадскім Доме культуры «Світанак».

— Нашаму Святу музыкі 15 гадоў, — адзначыў народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг. — Акрамя Заслаўя, Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі арганізоўвае музычныя вечары ў Нясвіжы, Любані, Маладзечне, у гэтым годзе распачнецца фестываль і ва Уздзе. Мы стварылі своеасаблівае музычнае кальцо на Міншчыне. Праведзены канцэрты і ў гарадах з вялікай гісторыяй (Мсціслаў, Тураў), у Чарнобыльскай зоне. Прапануецца не толькі беларуская акадэмічная музыка, але і эстрадна-джазавая. За час існавання калектыў аркестра правёў ужо 196 фэст! Але гэта не значыць, што мы спаборнічаем за колькасныя паказчыкі, у першую чаргу — выхаванне культурна развітога беларускага слухача.

Нацыянальны аркестр праводзіць фестывалі на беларускай мове. Свята музыкі «Заслаўе-2015» праходзіла ў Дзень беларускай навукі: музычны фэстаў Міншчыны — навуковы «падмурак». Арганізатары канцэртаў ужо выдалі больш як 20 кніг пра беларускую музычную культуру і спыняцца на гэтым не плануюць.

**Таццяна ШЧЭРБА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**30 студзеня** — *у літаратурную гасцёўню «Сугучча» пры СШ № 77 (вул. Крупскай, 10) на творчую сустрэчу з групай сталічных пісьменнікаў. Пачатак у 14:30.*

**2 лютага** — *на конкурс мастацкага чытання літаратурных твораў сярод вучняў 7 — 11 класаў СШ № 23 імя Пімена Панчанкі (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**4 лютага** — *у школу акцёрскага майстэрства пры СШ № 23 імя Пімена Панчанкі (вул. П. Панчанкі, 56) на конкурсны адбор у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры МГА СПБ. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**5 лютага** — *на прэзентацыю кнігі вершаў юнай паэтэсы Кацярыны Масэ «Двоичный код». Мерапрыемства адбудзецца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы (вул. Янкі Купалы, 4). Пачатак у 18:30.*

**6 лютага** — *у міжнародную літаратурную гасцёўню «Дыялог сяброў» на творчы вечар паэтэсы Аліны Легастаевай. Імпрэза пройдзе ў офісе турэцкага грамадскага аб'яднання «Дыялог Еўразія» (вул. Е. Полацкай, 1). Пачатак а 17-й гадзіне.*

Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ



## Пірацкая кадрыля

*Шчэрыцца «Вясёлы Роджэр»,*
*Плешчацца ў кубках ром.*
*Мы — падступныя, як Борджа:*
*Што захочам — то й бяром.*

*Сто акул табе ды ў дышаль,*
*Варушыся і не стой —*
*То не мамка нас калыша,*
*А сініць марскі прыбой.*

*Ветразь поўніцца зюйд-вестам.*
*Гэй, мацней трымай стырно.*
*У акіяне поўна месца,*
*Дурнямі заслана дно.*

*З-пад вады цікуе кракен*
*Вокам зырка-залатым.*
*Разам з ім зімуюць ракі*
*І падводныя каты.*

*На карунках белай пены,*
*На хрыбтах салёных хваль*
*Соладка пяюць сірэны*
*І танцуюць чайкі вальс.*

*Мы ж — з драўлянымі нагамі*
*І з крукамі заміж рук —*
*Для сябе спяваем самі,*
*Вакол мачты стаўшы ўкруг.*

*Шчэрыцца «Вясёлы Роджэр»,*
*Плешчацца ўва глотках ром.*
*Мы, падступныя, як Борджа,*
*Фільмы з торэнтаў бяром.*

***

*Колькі ўва мне галасоў,*
*Па жывому раздзёртых фраз.*
*Ім*
*Усім*
*Не стае слоў,*
*І яны прадзіраюцца праз*
*Калейдаскоп жыцця,*
*Праз вусцішна цёмныя сны.*
*Так што нават увосень я —*
*На парозе чужой вясны.*
*Колькі адбіткаў ва мне*
*Многакалёрнага шкла?*
*Ці ж варта раскідвацца?*
*Не,*
*Ды інакш я не змагла б.*
*Перакрыжоўваючы*
*Супрацьўленне крыві,*
*У ахоўнае кола рук*
*Кожны голас,*
*Бы птаха,*
*Бяру*
*І на вушка шапчу:*
*«Жыві».*

## Варажы

*Варажы — на вадзе:*
*Дождж кудзелю прадзе.*
*Распусці шэрых хмараў радно.*

*Варажы — на крыві.*
*Рэкі шляхам крывым*
*Барву жыццяў выносяць на дно*

*Акіянаў. Адтуль*
*Духі-хмары лятуць,*
*Каб уздыбіцца ў вышыні.*

*Ты не верыш? Зірні —*
*Абуджаюцца жыць*
*Чары ў кожнай жывое душы.*
*Не спыніць іх, не збыць,*
*А таму — варажы.*
*На вадзе.*
*На зямлі.*
*На агні.*

## Бурштын

*У мяне на далоні*
*Кавалак бурштыну —*
*Быццам сонца густое*
*З неба ўпала і стыне,*
*Быццам светлыя слёзы*
*Ўсеабдымнага свету,*
*Бы не надта цвярозы*
*Пацалунак ад лета.*
*Ясна-жоўты бурштын —*
*І на выгляд салоны,*
*Мора спеўнага сын,*
*Як прыбой утрапёны.*
*…Паратунак адзін*
*ў нашай светлай журбе:*
*такі самы бурштын*
*на далоні ў цябе.*

***

*Мы будзем чакаць адзін аднаго*
*Па калена ў вадзе:*
*Я — ля «Кастрычніцкай»,*
*Ты — на плошчы Якуба Коласа,*
*І будзеш крычаць мне ў слухаўку*
*Сіплым сарваным голасам:*
*«Ты, гэтак цябе растак, ДЗЕ?!»*

*Мы будзем бегчы насустрач адзін аднаму:*
*Я — па Незалежнасці,*
*Ты — па праспекце Скарыны,*
*І ты не спытаеш мяне пра*
*спазненне —*
*«Чаму»,*
*А толькі ўздыхнеш з асуджальным*
*тварам:*
*«Жанчыны!..»*

*Мы будзем — мацней і мацней —*
*Трымаць адзін аднаго.*
*Я прыцягну цябе,*
*А ты — за плечы — мяне.*
*І спытаеш гэтак сярдзіта: «Чаго?*
*Думаеш, я закаханы?*
*А вось і не!»*

***

*Непаслухмянымі пальцамі,*
*Аслізгаючыся*
*Ў нотах*
*Дзынкае фартэпіянна*
*Слота.*
*Тут, на мяжы*
*Усіх сезонаў —*
*Свая, асобая зона:*
*Тут — капяжы.*

---

Мікола МЯТЛІЦКІ



***

*Варушыць Віліі быстра*
*Празяблы шорсткі донны жвір.*
*Над ёй — заходняя зара*
*Малюе ў чырвань неба шыр.*

*Куды імкнеш, мая рака,*
*Вірліва-пеннаю гульбой?*
*Прагрэсу жорсткая рука*
*Парыўна сцята над табой.*

*Начы ў туманным малацэ*
*Нябёсы зоркамі расшыць.*
*Як веру я, што той руцэ*
*Гарляк ракі не задушыць.*

*Віліі ўбачыў святло —*
*Зорную глыбіню.*

*Юным прыйшоў сюды,*
*Сёння — сівы, як лунь.*
*Колькі ўцякло вады!*
*Пожняю стала рунь.*

## Памяці Аляксандра Жураўлевіча і Аляксандра Марфіцкага

*Іх неба раскалолася надвое*
*І з гарычу кранулася зямлі.*
*Маўкліваю магільнаю травою*
*Крыві жывыя кроплі праraслі.*

*Для подзвігу — адно імгненне трэба,*
*Што б'е усёй суровасцю пад дых.*
*Над Полычаю абпаленае неба,*
*Як зоркамі, глядзіць вачамі іх.*

***

*Зіма завейна пружыць жылы,*
*Спакойны сон шугой укрдзены.*
*І свет пад назіркам Ярылы*
*Віхляста гурбінамі укладзены.*

*Усмех дзятвы ў прасторы стылай,*
*Лёт санак з горкі крутабокае.*
*Па храпе ледзяной настылай*
*Лясніцкі конь падкованы цокае.*

*У калідоры вузкім вулкі*
*На санях сена едзе зелена.*
*І возчык-дзед у гоман гулкі*
*Крычыць падлеткам:*
*«Драць не велена!»*

*Зырчаста выкаціў вячорак —*
*Уніз зіхотай зорнай пяліцца.*
*І здасца раптам,*
*што ад зорак*
*Зялёны сон травы*
*падпаліцца.*

## Сашу Бараноўскаму

*Твары, Алесь, твары.*
*Са смутку і святла*
*Яго, жыцця, віры,*
*Дзе музыка ўзышла.*

*Спатоль свой юны час*
*Духоўнай паўнатой,*
*Каб бегла ён не згас,*
*Не стаўся пустатой.*

*Твары — душой гары,*
*Твары — вачмі світай.*
*Усе жыцця дары*
*Аднойчы паспытай.*

*Пакінь наступным дням*
*Свайго натхнення плён.*
*І будзе свет, як храм,*
*Дзе лік святых ікон.*

*З таемнай вышыні,*
*З-пад самых зыркіх зор*
*Душою азірні*
*Ўквечаны прастор.*

*Там шэпчуцца дажджы*
*І росы на траве…*
*Няпутным нам скажы,*
*Што Беларусь — жыве!*

***

*За вокнамі — год высакосны.*
*Як промень дасветнай зары,*
*Трымаю блакітныя*
*«Вёсны» —*
*Зборнік студэнцкай пары.*

*З пошуму белых веяў,*
*З далёкіх, родных краёў*
*Дваццаць нас выйшла сеяць*
*Зумкую музыку слоў.*

*Зашчодра вясной блаславёны,*
*Цяплом яе сонечных рук.*
*Імёны… Якія імёны! —*
*Стрыжак,*
*Пісьмянкоў,*
*Марук…*

*У кожнага — лёс не зайздросны.*
*Як вам каля зорак,*
*сябры?*
*Гартаю блакітныя*
*«Вёсны» —*
*Зборнік студэнцкай пары.*

***

*Акінчыцы…*
*Вачмі акінь*
*Стракатыя абсягі лета.*
*Нібы сама душа паэта —*
*Нябёсаў ранішняя сінь.*

***

*Гэта ў свеце маім*
*Дзеюцца дзеі,*
*Ад якіх*
*Кроў халадзее:*
*Заложнікі,*
*Забойствы, тэрор.*
*І глядзіць божы свет*
*Сумна*
*Вачамі зор.*
*Пытаюцца*
*Дзеці і ўдовы:*
*— Хто чарговы?*

*Гэта ў маім*
*Раз'ятраным часе*
*Смерць гуляе*
*На чорным папасе:*
*Пакідае*
*Крывавы след.*
*Спудна ўзіраючыся*
*У світанне,*
*Сумна пытаецца:*
*Ці настане*
*Скон мой,*
*Ядзерны свет?!*

***

*На золку спыніўся на строме рачной,*
*Наводдаль прысталі лясы*
*за спіной,*
*Аблокі ў нябёсах суцішылі ход,*
*Задумна глядзелі ў стынь*
*ранішніх вод,*
*А сонца зірнула — над светам*
*плыло,*
*І ўсё наваколле уміг ажыло.*
*Пачуліся знoўку жыцця*
*галасы,*
*І бліжай да стромы*
*ступілі лясы,*
*Над дахамі хацін дымы*
*паплылі.*
*І звычна-аседла было*
*на зямлі.*

***

*Колькі вады ўцякло*
*З дзён, калі ўпершыню*

## У лечкамісіі

*У накрапе спорным дажджу —*
*Зноў сэрцу балесна шчымець —*
*На вокны палаты гляджу,*
*Дзе Мележа стрэціла смерць.*

*Той жнівень гарачы апёк*
*Жахотным агнём навіны*
*Душу Беларусі — і сцёк*
*Слязою з бальнічнай сцяны.*

*Глядзіцца з пахмурых акон*
*І сёння ў нябёсаў прасцяг*
*«Палескае хронікі» скон —*
*Яе абарваны працяг.*

*Дождж сцеле густую імжу,*
*І небу раскатна грымець.*
*На вокны палаты гляджу,*
*Дзе Мележа стрэціла смерць.*

***

*Няма Купалы мне бліжэй.*
*Яго радкі — узлёт свабоды.*
*Без іх было б куды цяжэй*
*Прайсці жыццёвыя нягоды.*

*Прыняць душой*
*краіны крах,*
*Тваёй вялікае Айчыны.*
*Без іх — зажыў бы*
*ў сэрцы страх*
*Мо б на гады, не на хвіліны.*

*Без іх — на полі нашых страт*
*Цяжэй было б акрэпнуць духам,*
*У час згадаць, што ты —*
*салдат,*
*І што зямля бывае пухам*

*Таму, хто здатны за яе*
*Жыццё аддаць на заклік шчыра.*
*Ды марнасць — клопаты твае:*
*Сумелі мы расстацца мірам.*

*Ты маеш свой прытульны кут,*
*Праменны ранак стагалосы.*
*І неба тут, і сонца тут*
*Цалуе ранішнія росы.*

*Сячэ з нябёс залеўны дождж*
*Ці снег, вястун зімы, царусіць,*
*Мне без яго, Купалы, ўсё ж*
*Цяжэй дайсці да Беларусі.*

## Уладзімір СЦЯПАН

## *Навелы*

# Мама

П'яніца нагадваў святога, намаляванага сучасным мастаком. Рэдкая шэрая барада, худая шыя, цёмны, як апечаны паўднёвым сонцам, твар, шэрыя запалыя вочы і цёмныя рукі. Узрост вызначыць дакладна немагчыма. Магло быць і сорак, і шэсцьдзясят магло быць. Насамрэч яму ішоў толькі сорак трэці год. Ён не ведаў, які сёння дзень. Які месяц. І колькі часу — значэння не мела. Без розніцы: дзесяць раніцы, ці дзесяць вечара. Ён даўно сядзеў на лаве ў парку. Праходзілі побач людзі. На яго глядзелі хутка, а ён на іх глядзеў доўгім позіркам. Калі ішла парачка з півам, то ён цяжка падымаўся і прасіў у хлопца цыгарэту. Пры дзяўчыне амаль не адмаўлялі, нават маглі і дзве даць.

Па брукаванцы каціла вазок маладая жанчына ў бэзавай сукенцы. Сіні вазок парыпваў і мярзотна папіскваў.

— Колькі часу? — спытаў цвярозы п'яніца.

— Пятнаццаць дваццаць. — пачулася ў адказ.

— А дзень які?

— Здаецца, серада.

— А месяц?

— Што табе яшчэ трэба! — абурылася маладая жанчына, і вазок зарыпеў, заскакаў па брукаванцы.

Раней гэтая сіняя джынсавая куртка, што на плячах, была яму малая, а цяпер моршчылася на схуднелым целе і выдавала вялікай, як на дзіцёнку, якога бацькі апранулі навырост. І зношаныя джынсы выглядалі чужымі. І толькі старыя разбітыя красоўкі былі да месца.

Такому адмовіш і забудзеш. Нават сумленне не варухнецца ў душы. Пройдзеш і забудзеш назаўсёды.

У яго мелася мабіла. Ёй было гадоў дваццаць. Чорная трубка-цагліна, з тоўстым пальцам антэны. Ён знайшоў яе ў скрыні. Знайшоў сёння ноччу, калі шукаў, што яшчэ можна хутка прадаць. Але ні каму не прыдалася гэтая дапатопная трубка. Ён выцягнуў яе з кішэні і пачаў засяроджана круціць-разглядаць. Дзіўна, але пальцы амаль не калаціліся. Раней, калі да яго прыходзіла пятнаццацігадовая дачка, з такімі ж шэрымі вачыма, то ён даваў ёй сто даляраў, здаралася, што пяцьдзясят. Потым даваў дваццаць, потым дзесяць. Дачка брала грошы і развітвалася. Яна ні разу не спытала, адкуль тыя грошы… Брала і сыходзіла, нібыта спяшалася па пільных справах. Так толькі свае робяць. А потым дачка перастала заходзіць, бо бацька перастаў даваць грошы. Скончыліся рэчы ў аднапакаёўцы і скончыліся сустрэчы з дачкой.

На працу яго не бралі. Каму трэба работнік алкаголік. Нават



тыя, каму ён у свой час дапамагаў, рабілі выгляд, што нічога яму даўно не вінныя і нічым не абавязаныя. Было колькі жанчын, пасля жонкі, пасля таго, як разышліся, размяняліся, раз'ехаліся. Але што ён мог ім даць? Яны зніклі, як усё ў яго ным жыцці, як рэчы.

Ён глядзеў на сваю мёртвую трубку. Цiснуў кнопку. Яна мякка ўвайшла ў корпус і вынырнула. Наступную лічбу націснуў, за ёй яшчэ і яшчэ…

Трубка нечакана ажыла. Замігала спачатку чырвонай кропляй, а праз імгненне зялёнай. Андрэй глядзеў на яркую кроплю зялёнага святла. Кропля выдавала зелянейшай за асветленую сонцам траву. Трубка шумела. Там былі гукі. Закінутая на антрэсолі яна аджыла, і запрацавала, як дваццаць гадоў таму. Ён здзіўлена і спалохана прыціснуў яе да вуха. У дынаміку варушылася музыка. Піканне, шоргат, бляманне і звон… А можа, гэта пташкі ў парку ціўкалі і спявалі так салодка? Можа…

— Алё, — Андрэй вымавіў аўтаматычна.

— Алё, — прагучаў у адказ мужчынскі голас.

— Слухаю.

— Ты хто? — насцярожана і злосна спытаў цвярозы п'яніца і павярнуўся на мулкай лаве.

— А ты што хацеў, чалавек?

— Нічога, проста націснуў і ўсё.

— Проста? Проста і ліст з дрэва не падае і кропля дажджу з неба. Кажы, што трэба, Андрэй.

— Вярні ўсё, як было дваццаць гадоў таму. Ты ж можаш?

У дынаміку пачулася мармытанне, уздых, далёкая музыка, блізкае шыпенне. А потым западавала ціша. Такая цвёрдая, як цагліна. Лямпачка згасла і больш не міргала. Трубка зрабілася мёртвай і цяжкай, як адлітай з жалеза.

Цела нечакана пачало налівацца жыццём, запаўняць сінюю джынсу курткі. Штаны са злінялых і пацёртых зрабіліся цёмна-сінімі і цеснымі. А рукавы і калашыны ўсё працягвалі напаўняцца целам. Андрэй тут жа згадаў, што куртка адразу, як толькі купіў, аказалася цеснаватай і яе давялося кінуць у шафу. Нават вуліцу ў Варшаве ўспомніў і краму, дзе набыў куртку і штаны. Успомніў, як гандляр попельна-ружовую сукенку навязліва прапаноўваў. І сукенку Андрэй тым разам купіў, нават глядзець не стаў.

Ён асцярожна падняўся з лавы, а потым сеў на месца.

Па алеі таропка набліжалася двое маладых мужыкоў. Адзін у плашчы, а другі ў рудой скуранцы. Таго, які ў скуранцы, Андрэй пазнаў. Як не пазнаеш аднакласніка і сябра па справах. З Сяргеем ён і ў Еўропу сто разоў ездзіў і ў Эміраты і ў Сібір, а потым на Далёкі Усход. А другі — зусім незнаёмы, але з выгляду — прыемны. Андрэй прывітальна ўскінуў дужую руку з тэлефонам. Сяргей павярнуў на бакавую алею. Толькі высокі мужчына ў плашчы працягваў ісці да Андрэя. Калі паміж імі засталося тры крокі, то высокі выхапіў з кішэні светлага плашча пісталет і стрэліў.

Усё адбылося хутка, амаль імгненна. Свет разляцеўся на кавалкі. Апошняе, што паспеў убачыць Андрэй, — светлы плашч незнаёмца і яркую зеляніну вясновага лісця. Незнаёмец нахіліўся, паглядзеў у вочы і пабег.

Гэта рамантычны фінал. Быць такога не магло. Жыццё назад не адкручваецца, хоць ты трэсні…

Але свет сапраўды паплыў, а потым разляцеўся і рассыпаўся. Андрэй пачырванеў, твар наліўся крывёй. Ён ускінуў цёмныя рукі і паваліўся на лаву. Некалькі парачак прайшло побач. І жанчына з вазком праехала-адвярнулася, акулярамі цёмнымі бліснула.

«Хуткую» выклікаў сантэхнік, які ішоў рамантаваць фантан з голымі дзеўкамі. Ён паставіў на лаву цяжкую скрыню з муфтамі, гайкамі, ключамі, апцэнгамі і другой патрэбнай трасцой. Набраў нумар на сваім тэлефоне і закурыў.

— Прыедуць, зробяць укол, адпусцяць… І мне бывае кепска, пакуль не вып'ю раніцай. Так пагана, што і жыць не хачу. Ніхто мне, мужык, за фантан плаціць не будзе. Я гэта ведаю. Але я пайду і зраблю… Няхай пырскае.

Потым сантэхнік убачыў вялікую трубку старога мабільніка з чорным пальцам антэны. Агледзеўся, нахіліўся. Падняў з-пад лавы і схаваў у кішэнь. Падумаў крыху і перахаваў у жалезную скрыню, дзе прыкрыў жмутом рудой кудзелі.

«Хуткая» з'явілася з той бакавой алейкі, куды ўцёк забойца.

Андрэй яшчэ дыхаў, калі яго паклалі на насілы. Ён нават вочы расплюшчыў і прашаптаў: «Ма-ма…»

# Курага

Як жа яго звалі? Кулімбек, Казбек, Кулінбег, Ку…

Толькі першы гук і захавала памяць. Хлопец стаяў асобна ад усіх нас, пад жалезным слупом, падобным да шыбеніцы. На тым слупе гарэў адзін ліхтар. Дзень, светла, а слязіна ліхтара ззяе. Холадна, а яна цёплая.

Вакол гаманілі, шапталіся, лаяліся, тупалі, паварочваліся направа-налева, сварыліся, маўчалі, спрачаліся, а ён заставаўся сам-насам. Яго касаватыя вочы, пад тонкімі чорнымі бровамі, глядзелі, цёмныя зрэнкі рухаліся, а ён стаяў, быццам і не разумеў, ні дзе ён, ні навошта ён тут? На ім быў прыкметны ўсходні халат… Нават вельмі прыкметны, але не фальклёрны, а сапраўдны, добра-такі паношаны. Кудлатую шапку хлопец трымаў у руках. Праз плячо торба, пашытая са стракатага кіліма. Пальцы тонкія і доўгія, як у музыканта, але цёмныя, перабіралі кудзёрке аўчыны. Яго рукі і твар я разглядзеў потым. А вакол гудзе рой маладых хлопцаў. У паліто, куртках, ватоўках, плашчах. З пляцакамі, сідарамі, валізамі, торбамі, чамаданамі, нават з авоськамі некаторыя…

Маёры хадзілі нетаропка, лейтэнанты рухаліся подбегам з паперамі ў руках, за імі маячыла расхрыстаная прапаршчыкі з сяржантамі. Бачыў трох палкоўнікаў у шэрых папахах, яны праходзілі ціха, важка, адсутна і абыякава, зашпіленыя на ўсе гузікі. Папарадзе адразу расступаліся і сцішваліся, ніякавелі. Там дзе прайшлі начальнікі, на некаторы час, заставаліся прагалы, як просекі, як завулкі. Гучалі назвы гарадоў: Ліпецк, Арол, Калуга, Тамань, Мінск, Саратаў, Масква, Чарнігаў… Гэта толькі тыя, якія найчасцей чуліся.

Колькі нас было? Тысячы тры дакладна. Купкамі, зграйкамі, натоўпамі, парамі, кампаніямі, як вялікімі, так і малымі, шчыльнымі шыхтамі, чэргамі.

А гэты хлопец у доўгім цёплым халаце стаяў пад жалезным слупам адзін. Рускі снег, калі аціхаў вільготны вецер, лянiва падаў. Сняжынкі апускаліся павольна і абыякава. Вялікія і халодныя. Ён глядзеў на іх каштанавымі вачамі, назіраў, як яны растаюць на руках. Задзіраў галаву на тонкай шыі, узіраўся ў маскоўскае нізкае неба.

Снег вакол стаптаны, брудны, лужыны. Ні травы, ні кустоў, ні дрэваў. Вакол вышэзныя белыя парканы, якія абгароджваюць тэрыторыю зборнага пункта. Пара доўгіх аднапавярховых будынкаў і адзін, на два паверхі, з зялёным фарбаваным дахам і высокім ганкам. У высокім бетонным паркане дзве жалезныя брамы з бляшанымі зоркамі, а побач з імі — аўтобусы і грузавыя машыны вайсковага колеру. Машын менш, чым аўтобусаў.

Адсюль прызыўнікоў павінны развезці па «вучэбках», і па тых месцах, дзе мы будзем праходзіць каранцін. Свайго афіцэра, які са мной доўга гаварыў у Мінску, я бачыў, але ён на мяне не глянуў. Прайшоў таропка побач, не прыпыніўся. Праз паўгадзіны зноў прайшоў. Можа, ён зусім пра мяне забыўся? Можа трэба нагадаць яму пра сваё існаванне? А калі мяне разам з усімі павязуць куды далёка? Можа ў той самы Афган? Ад гэтых думак рабілася млосна, але абыякавасць і стома перамагалі, бо пасля цяжкай ночы ў гарачым вагоне, дзе шмат пілі, курылі, сварыліся і нават ледзь не пабіліся, было кепска…

Хлопец пад слупом нагадваў скульптуру Буды, высечаную з каштоўнага дрэва, а потым старанна адпаліраваную. Яго ўсходні твар тонкі, арэхавага колеру, шыракаскулы, дасканала прамаляваны, а на вуснах загадкавая ўсмешка.

Ад спалоху, стомы і разгубленасці мне захацелася есці. А хутчэй за ўсё апетыт з'явіўся ад выпітай мінулым днём і ноччу гарэлкі. У кішэнях ватоўкі знайшоў толькі цыгарэты і запалкі. Калі сабраўся прыкурыць, то зірнуў на хлопца. Нашы позіркі сустрэліся. Я падышоў да яго. Падаў яму пачак. Ён узяў цыгарэту і хітнуў. Нават не хітнуў, а схіліў паголеную галаву і некалькі імгненняў так і стаяў. Я сказаў, як мяне завуць, ён назваў сваё імя. Кулімбек, Казбек, Кулінбег, Ку… Пакурылі. Па-руску ён гаварыў так кепска, што я мала чаго мог зразумець. Можа, ён хацеў мяне аддзячыць, а можа, здагадаўся, што я хачу есці. Дастаў з торбы круглы, падобны да вялікага бліна, хлеб. Разарваў яго напалам. Падаў мне. Потым выцягнуў з торбы курагу. Залаты, ружова-жоўты камяк падоў. Ад яе выгляду ў роце з'явілася сліна. Курага была смачная, салодкая з прыемнай кіслінкай.

Зубы вязлі…

Кусаў пругкі прэсны хлеб з курагой, жаваў, глытаў і глядзеў на свайго дабрадзея. І ён еў з той жа незразумелай усмешкай. Але даесці я не паспеў. Зямляк, з якім пазнаёміўся ў Мінскім ваенкамаце, незадаволеным голасам паклікаў. Я схаваў рэшткі ежы ў кішэнь ватоўкі і таропка падаўся да сваіх. Там два прапаршчыкі, адзін з паперамі, а другі рукі ў кішэнях, хадзілі і аглядалі беларускіх прызыўнікоў. У маладзейшага прапаршчыка бліскаў, калі ён выкрыкваў чарговае прозвішча, жалезны зуб. Тыя, чыё прозвішча прагучала, адыходзілі ўбок. Мяне не назвалі. Потым, без развітання, маўклівая і хутка, адабраныя пайшлі за прапаршчыкам да брамы, да машын. І неяк адразу тыя, што засталіся, згубілі да іх цікаўнасць.

Другі прапаршчык, нізкі і круглатвары, дастаў з-за пазухі паперку, паглядзеў на нас і першым прачытаў маё прозвішча. Я зрабіў крок. Ён доўга дзівіўся на мяне, а потым перапытаў, ці, насамрэч, я мастак. Загадаў стаць побач з ім, і пачаў выкрыкваць іншыя прозвішчы. Удакладняць — хто сантэхнік, паркетчык, зваршчык, слесар, муляр, кравец, кухар…

Раптам пачуўся крык. Я азірнуўся. Там, пад слупом, падобным да шыбеніцы, на якім гарэў ліхтар, нешта адбывалася. Колькі чалавек круцілася вакол майго знаёмага ў халаце, а ён курчыўся пад слупом. Наш прапаршчык спакойна працягваў чытаць прозвішчы, а пад слупом хутка збіраўся цёмны натоўп. Потым нехта гучна крыкнуў: «Доктара!.. Чалавек памірае! Атруціўся!» І далей нягучна, але спалохана: «Хутчэй! Доктара!»

Прапаршчык некалькі разоў перапытаў, хто — кінамеханік? Сказаў, што павінен быць, бо прозвішча ў спісе ёсць, а чалавека няма... Загадаў стаяць на месцы, а сам пайшоў да будынка пад зялёным дахам. У мяне пачало круціць жывот. У рот пабегла салодкая вязкая сліна, якую ледзь пракаўтнулася… Захацелася, прысесці, перагнуцца, але я адно толькі прыціснуў да жывата далоні, пахістаўся, ды колькі разоў папляваў пад ногі.

Да слупа бег расхрыстаны, у белым халаце, доктар. Ён быў без шапкі, малады. У мяне так круціла жывот, што я ледзь трымаўся на нагах. Потым сагнуўся, прысеў на кукішкі. Калі боль трохі суняўся, то і я падаўся да слупа. Хлопец у цёплым халаце, ляжаў на спіне, а доктар навальваўся на яго, ціскаў сашчэпленымі рукамі яму на грудзі і выгукваў: «Р-аа-з! Р-аа-з!» З'явіліся санітары з насілкамі. Потым яго паклалі і панеслі подбегам, да аднапавярховага будынка, а доктар пайшоў следам, рукі ў кішэнях халата, у роце незапаленая цыгарэта…

Тут зноў нехта сказаў, што чурка глынуў атруту, і яму кірдык. Што ён не хацеў служыць у войску, а таму і скончыў жыццё самагубствам. Хто гэта гаварыў — не памятаю, бо мяне аблiло халодным потам. Я падумаў, што ён і мяне атруціў сваім блінам з кіслай курагой… Сняжынкі будуць падаць, падаць, падаць… Але жывот балець перастаў, зусім. І есці не хацелася.

У Кулінбека, ці як там яго, спынілася сэрца. Так сказаў прапаршчык, калі мы таропка грузіліся ў кароткі аўтобус.

Не памятаю, як ехалі праз Маскву ў брыгаду, бо ў цяпле задрамаў. У сутарэннях, побач з лазняй, загадалі распранунца, скласці адзежу пад сцяну, на доўгую лаву і падпісаць сваё прозвішчы і адрасы, куды і каму яе адсылаць. Я сваю не падпісаў. Калі забіраў з кішэні ватоўкі цыгарэты і запалкі, то пальцы датыкнуліся да кавалка хлеба і да ліпкай курагі. Я акуратна паклаў цяжкую старую ватоўку на лаву.

Пасля войска некалькі гадоў не мог есці курагу. Нават, калі бачыў яе, то мне рабілася млосна. Цяпер ем, і мне смачна…

# Шлях у сем стагоддзяў

## З сярэднявечча — да Гаскалы

**Суіснаванне розных культур на адной тэрыторыі — з'ява, вядомая з неабсяжнай старажытнасці. Культуры розных народаў пры шчыльных кантактах непазбежна ўзаемапранікаюць і ўзаемаўзбагачаюцца, і межы між імі становяцца ўсё менш відавочнымі. Гэта нярэдка прыводзіць да такога становішча, калі таго ці іншага мастака, музыку ці пісьменніка, тую ці іншую культурную з'яву немагчыма адназначна аднесці да пэўнай нацыянальнай культуры. Так, каштоўная крыніца вывучэння старабеларускай мовы — кетабы беларускіх татараў; італьянскі архітэктар Растрэлі — рускі архітэктар, яўрэйскі мастак Ісак Левітан — рускі мастак; рускі пісьменнік Набокаў зрабіў немалы ўнёсак у англійскую літаратуру.**

### ПРАВЫ НА ПАПЕРЫ

Беларуская нацыя фарміравалася ў шматнацыянальнай і шматканфесійнай дзяржаве — «Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім», усе народнасці і канфесіі якога ўмелі жыць як добрыя суседзі.

Культуры абодвух народаў, не страчваючы сваёй самабытнасці, за такі працяглы час істотна паўплывалі адна на адну.

Першыя згадкі пра перасяленні яўрэяў на беларускія землі ў пісьмовых крыніцах датуюцца другой паловаю XIV стагоддзя: у 1380-я гады ў Брэсце і Гародні існуюць абшчыны, створаныя выгнанцамі з Іспаніі, германскіх дзяржаў, а таксама перасяленцамі, што прыбылі на тэрыторыю тагачаснага Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага з суседняга Польскага каралеўства. Як падае ў зборніку навуковых прац «Гісторыя яўрэяў Расіі» С. Лазутка (выдадзены ў 1993 годзе ў Пецярбургу), першым дакументам, што рэгламентаваў жыццё яўрэяў на беларускіх землях, стаў Луцкі прывілей вялікага гаспадара літоўскага Вітаўта на карысць яўрэйскай абшчыны Брэста. Ён датуецца 24 чэрвеня 1388 года і акрэслівае прынцыпы суіснавання перасяленцаў у тагачасным грамадстве ВКЛ.

Так, яўрэі мелі права на свабоднае адпраўленне рэлігійнага культу і звязаных з ім абрадаў, атрымлівалі магчымасць займацца аперацыямі з нерухомасцю і залогамі. Прывілеем зацвярджаліся падставы аўтаноміі кагалаў — яўрэйскіх абшчын, а таксама рэгламентаваліся некаторыя аспекты міжнацыянальных і міжканфесійных кантактаў: забаранялася абвінавачваць іудзеяў у выкарыстанні хрысціянскай крыві, а за забойства яўрэя суд вымяраў кару, ідэнтычную кары за забойства шляхціца. 18 чэрвеня 1389 года вялікакняскі прывілей быў выдадзены на карысць яўрэйскай абшчыны Гродна. Гэтыя дакументы сведчаць пра палітыку заахвочвання яўрэяў да больш актыўнага рассялення на тэрыторыі ВКЛ з мэтай актывізацыі гандлю, распаўсюджвання грашова-таварных адносін і агульнага ажыўлення эканамічнага жыцця. Што да рэлігійнага аспекту, дык нялішнім будзе нагадаць пра прынцып рэлігійнай верацярпімасці, упершыню сфармуляваны вялікім гаспадаром літоўскім Гедымінам і ў XVI стагоддзі замацаваны ў Статутах ВКЛ.

### СТАРАЯ КЛАСІКА

Па аб'ектыўных прычынах у XVI — пачатку XVIII стагоддзя яўрэйская літаратура на тэрыторыі Беларусі знаходзілася ў стане пэўнай стагнацыі. У своеасаблівым кніжным каноне былі перш за ўсё творы пісьменнікаў папярэдняй эпохі: сярэднявечная рэлігійна-філасофская паэзія Габпароля, Ягуды Галеві, Ібн-Эзры, Альхарызі і інш., рэлігійна-філасофскі трактат «Эмуна-рама» («Узнёслая вера») і «Сэфэр-га-Кабала» («Кніга падання») Абрагама ібн-Дауда — папулярная гісторыя яўрэйскага народа, у якой аўтар больш засяроджваўся на жыцці іспанскіх яўрэяў. Карысталася попытам кніга «Вандраванні Беньяміна» Беньяміна Тудэльскага, які на працягу 13 год падарожнічаў па многіх краінах свету і пакінуў высокамастацкія апісанні не толькі жыцця яўрэйскіх абшчын, але і тубыльчага насельніцтва наведаных ім краін. На кніжных паліцах у заможных сем'ях можна было ўбачыць і творы тагачаснай еўрапейскай літаратуры. Пераважная ж частка насельніцтва — людзі зусім не заможныя — актыўна стварала фальклор, які ўзбагачаўся дзякуючы міжкультурным кантактам з беларусамі, літоўцамі, украінцамі, палякамі, рускімі і іншымі народамі шматнацыянальнай беларуска-літоўска-польскай дзяржавы.







*«Пачынальнікі» яўрэйскай літаратуры: Майсей Мендэльсон, Саламон Маймон, Натан Гановэр.*

### ХРОНІКІ ВАЙНЫ

Стан яўрэйскай літаратуры на беларускіх землях XVI — XVIII стагоддзя ілюструе трагічныя падзеі 1648 года, калі паўстанцкія атрады казакоў Б. Хмяльніцкага пачалі штурмаваць гарады і мястэчкі Беларусі, пераважна на поўдні і паўднёвым усходзе. У ваенным ліхалецці загінула шмат і каталікоў, і яўрэяў, бо і казакі Хмяльніцкага, і царскія жаўнеры чынілі крывавыя каталіцкія і яўрэйскія пагромы. Не адгукнуцца на гэтыя крывавыя падзеі яўрэйская літаратура не магла. Як прыклад — гістарычная хроніка «Явэн мэцула» («Багна бяздонная») аўтарства Натана Гановэра з Заслаўя, што ўбачыла свет у Венецыі ў 1653 годзе. У хроніцы змешчаныя падрабязныя апісанні бунтаў на чале з казацкімі гетманамі Налівайкам і Паўлюком, шматлікія факты, звязаныя з асобаю Багдана Хмяльніцкага. Адной з цэнтральных тэм становіцца апісанне крывавых пагромаў у Нямiраве, Тульчыне, Бары, Астрогу і іншых гарадах, пераплеценае з асабістымі ўспамінамі аўтара, узбагачанае сведчаннямі тых, хто перажыў пагромы, цытаваннем пісьмовых крыніц. Натан Гановэр не толькі засяроджваецца на паказанні падзей 1648 года, але і спрабуе знайсці іх прычыны, падаючы казацкія войны ў гістарычным кантэксце.

Так, на старонках ягонага твора з'яўляецца кароль Жыгімонт, які праводзіць дыскрымінацыйную палітыку, узвялічваючы і надаючы прывілеі магнатам і шляхце каталіцкага веравызнання і адначасова прыніжаючы праваслаўную арыстакратыю. У выніку з эканамічнага пункту гледжання становішча праваслаўнага насельніцтва моцна пагоршылася, сярод шляхты і магнатаў пачаўся актыўны пераход у каталіцтва. Дбаць аб праваслаўных ніхто не хацеў. Іх пераважна ўжо не гаварылі па-руску... Іх пераатрылі ў прыгонныя і лёкаяў — не толькі для палякаў (каталікоў), але — што падкрэсліваецца асабліва — і для яўрэяў. Сярод іншых гістарычных асоб, пра якіх вядзецца гаворка на старонках «Пучыны бяздоннай», варта згадаць Іерамію Вішнявецкага і яго заступніцтва ў адносінах да яўрэяў, а таксама князя Уладзіслава Даменіка Заслаўскага, галоўнакамандуючага польскага войска, баязлівасць і слабадушша якога прынесла шмат гора і яўрэям, і Польшчы (маецца на ўвазе разгром войска на чале з Заслаўскімі палкамі Хмяльніцкага ў бітве пад Пiляўцамі).

Знайшлося ў творы Натана Гановэра і месца для апісання культурнага жыцця яўрэяў Рэчы Паспалітай напярэдадні паўстання Хмяльніцкага: аўтар спыняецца на філасофскай працы ў яшывах, распавядае пра дабрачыннасць заможных яўрэйскіх сем'яў, а таксама характарызуе дзейнасць Ваада чатырох краёў — цэнтральнага органа яўрэйскага аўтаномнага самакіравання Рэчы Паспалітай (дзейнічаў з сярэдзіны XVI да сярэдзіны XVIII стагоддзя).

Яшчэ адна цікавая старонка яўрэйскай літаратуры Беларусі згаданага перыяду — твор выкладчыка Мінскай яшывы Яхіела Гальперына «Сэдэр Гадарот» («Хада пакаленняў»), што пабачыў свет у 1700 годзе. Гэты трактат — бліскучае выкладанне ўсёй яўрэйскай гісторыі ад старажытнасці па 1698 год.

### АДРАДЖЭННЕ

Магутны культурны ўздым у асяродку беларускага яўрэйства адбыўся ў другой палове XVIII стагоддзя і звязаны з ідэйным, асветніцкім, культурным і літаратурным рухам Гаскала («асвета», «асветніцтва»). Гаскала арыентавалася на засваенне свецкай еўрапейскай асветы і разглядала прадуктывізацыю працы як шлях паляпшэння становішча яўрэяў у краінах дыяспары. Ідэі Гаскалы сталі рухальнаю сілаю ўсіх яўрэйскіх ідэалагічных плыняў не толькі на Беларусі, але і ў Еўропе амаль два наступныя стагоддзі. Адбітак гэтых ідэй і сёння адчуваецца ў поглядах яўрэйскіх дзеячаў свету.

Гаскала прапагандавала засваенне моў і культур народаў, сярод якіх жылі яўрэі, і далучэнне да сусветнай навуковай думкі, прамыслова-гаспадарчай дзейнасці пры поўным падпарадкаванні законам краін пражывання, выступала за палітычную роўнасць з народамі гэтых краін. Адначасова яна заахвочвала цікаўнасць да зыходнай яўрэйскай мовы іўрыт, прапагандавала яе развіццё з улікам найноўшых рэалій жыцця. Тым не менш гэта не замінала стымуляванню развіцця літаратуры на ідыш, які шырока бытаваў у яўрэйскім асяроддзі і быў не элітарнай літаратурнай мовай і мовай рэлігійнага культу, а сапраўды нацыянальнай мовай пераважнай большасці еўрапейскага яўрэйства.

Радзімай Гаскалы была Германія, а яе духоўным бацькам — пісьменнік Майсей Мендэльсон (1729 — 1786), аўтар шырокавядомай філасофскай кнігі «Федон» на нямецкай мове. Вакол Мендэльсона ўтварыўся гуртоκ вучняў і аднадумцаў (Эйхель, Вайзель, Фрыдлендэр і інш.). Яны заснавалі яўрэйскую вольную школу (дзе па-нямецку выкладаліся свецкія навукі і Біблія на іўрыце), Кола аматараў старажытнаяўрэйскай мовы, часопіс «Мэасэф» («Збіральнік»). У ім друкаваліся на іўрыце лірычныя і духоўныя вершы, даследаванні ў галіне габрэйскай граматыкі, пераклады твораў французскіх і нямецкіх пісьменнікаў.

У Літве і Беларусі ў гэты час вялі між сабой упартую ідэалагічную барацьбу дзве школы юдаізму — міснагды і хасіды, якія варожа ставіліся да новага асветніцтва. Беларуска-літоўскія яўрэі, што цягнуліся да ведаў па-за межамі традыцыйнай талмудычнай навукі, былі змушаныя з'язджаць у чужазем'е.

Найбольш выбітная асоба таго часу — Саламон Маймон (1753 — 1800). Ён нарадзіўся ў сям'і вясковага арандатара на Нясвіжчыне, выхоўваўся на Талмудзе, самахоць перайшоў да вывучэння містычнага вучэння Кабалы. У 1777 годзе з'ехаў у Германію, дзе далучыўся да гуртка Мендэльсона. Пазнаёміўшыся з нямецкай філасофіяй, Маймон стаў паслядоўнікам Канта. Свае філасофскія творы друкаваў панямецку. У 1792 г. выдаў «Аўтабіяграфію», у якой яскрава расказаў пра сваё няпростае жыццё: намаляваў вобразную і падрабязную карціну побыту беларуска-літоўскіх яўрэяў, іх звычаяў і нораваў.

**Фелікс БАТОРЫН**

# Барыс Норман: тэорыя невыпадковасці


Барыс Норман.

**Барыс Норман — доктар філалагічных навук, прафесар кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, заслужаны работнік адукацыі Беларусі. Барыс Юсцінавіч — шырока вядомы даследчык, аўтар кніг па граматыцы славянскіх моў, агульным мовазнаўстве, псіхалінгвістыцы, прагмалінгвістыцы, кагнітывістыцы і інш. Яго бліскучыя лекцыі і даклады з захапленнем слухалі ў Аўстрыі, Балгарыі, Беларусі, Германіі, ЗША, Расіі, Сербіі, Славакіі, Украіне, Чэхіі, Японіі. 6 лютага Барысу Норману спаўняецца 70 гадоў.**

**Даведка «ЛіМа»**

Барыс Норман нарадзіўся 6 лютага 1945 года ў Ленінградзе, дзяцінства правёў у Таліне. З 1961 па 1966 год — студэнт філалагічнага факультэта Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Па 1968 год — аспірант БДУ (Мінск). З таго часу і па сённяшні дзень працуе на кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства БДУ. Прафесар з 1985 года. У 1969 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю «Зваротныя канструкцыі ў сучаснай балгарскай літаратурнай мове», у 1984-м — доктарскую працу «Сінтаксіс моўнай дзейнасці. Просты сказ».

Стажыраваўся ў Сафійскім універсітэце (Балгарыя), працаваў у Рурскім універсітэце (Германія), Тэхаскім універсітэце (ЗША), Вышэйшай школе г. Седльцэ (Польшча).

Выступаў з навуковымі дакладамі і лекцыямі ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Берліне, Патсдаме, Хельсінкі, Любляне, Варшаве, Сафіі ды інш.

Удзельнічаў у працы чатырох Міжнародных з'ездаў славістаў. Падрыхтаваў больш як 10 кандыдатаў навук. Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь.

**— З чаго ўсё пачыналася? Чаму вырашылі, што будзеце вывучаць менавіта філалогію?**

— Яшчэ ў школе мяне цікавілі філасофія, сацыялогія, тэорыя мастацтва. Я любіў маляваць, шмат чытаў. Гэта натуральна: вырас у інтэлігентнай сям'і (бацькі былі ўрачамі), дома мелася бібліятэка. І калі скончыў школу, было відавочна, што выбіраць буду з гуманітарных спецыяльнасцей. Самы просты варыянт — мова і літаратура. І я паехаў у Ленінградскі ўніверсітэт паступаць на нямецкае аддзяленне.

Здаў уступныя экзамены на тры пяцёркі і чацвёрку, а калі ўжо з гэтымі 19 баламі пайшоў на гутарку, мне сказалі: «Ведаеце, па балах вы праходзіце, але згодна з медыцынскай даведкай у вас блізарукасць высокай ступені, а мы рыхтуем вайсковых перакладчыкаў, куды вас не прапусцяць, так што абірайце іншую спецыяльнасць». У 16 гадоў мяне гэта мала занепакоіла, і я паставіўся да справы легкадумна: «А якую спецыяльнасць параіце?» Мне прапанавалі славянскае аддзяленне, і ў выніку я трапіў на балгарскую філалогію. Гэта было нечакана для мяне і для ўсіх, хто мяне ведаў.

Першыя два ці тры гады вучыўся таксяк, то бок, на пяцёркі, зразумела, але не магу сказаць, каб мяне гэта вельмі цікавіла. А з трэцяга курса трапіў у семінар да Ю. С. Маслава, дрэнна тады ўяўляючы, хто гэта. Ведаў, што прафесар па адукацыі германіст. У канцы вайны Маслаў у складзе войскаў (ён быў паліт-работнікам) трапіў у Балгарыю, пасля чаго пачаў вывучаць балгарскую мову і моцна прасунуўся ў гэтым кірунку. Сёння я ведаю, што Ю. С. Маславу належыць самая лепшая граматыка балгарскай мовы з усіх калі-небудзь напісаных. Словам, я да яго трапіў, і паступова сталі фарміравацца мае інтарэсы. Там жа я пісаў дыпломную работу, прысвечаную балгарскаму дзеяслову.

**— А пасля гэтага паступілі ў аспірантуру ўжо ў Мінск?**

— Таксама збег абставін. У 1966 годзе заканчваў універсітэт і, шчыра кажучы, быў лепшым студэнтам на сваім курсе, ленінскім стыпендыятам, і страшна гэтым ганарыўся. Дзевяноста рублёў — па тых часах гэта былі грошы, тым больш што жыў самастойна і, больш за тое, ужо ўмудрыўся ажаніцца.

Універсітэт я заканчваў, з дыпломнай працай усё было ў парадку. Прафесар П. А. Дзмітрыеў, загадчык кафедры, на якой я вучыўся, цяжка захварэў, і было зразумела, што кафедрай ён загадваць не будзе. Ю. С. Маслаў загадваў кафедрай агульнага мовазнаўства. Ён сазваніўся са сваім былым студэнтам Генадзем Цыхуном, які скончыў славянскае аддзяленне ў Ленінградзе і, будучы беларусам, паехаў у Беларусь уздымаць славістыку. Цыхун і паведаміў, што ў Беларусі сёлета ёсць месца ў аспірантуры…

Я паехаў у Мінск увесну таго ж года. Пазнаёміўся з М. Г. Булахавым, які тады кіраваў кафедрай рускага і агульнага мовазнаўства. Булахаў мяне выслухаў і добразычліва сказаў: «Рыхтуйцеся. Будзеце здаваць экзамены. Нам спецыялісты па славянскіх мовах патрэбныя».

Я спакойна з'ехаў у Ленінград і праз месяц атрымліваю з Мінска новае паведамленне. Аказваецца, сітуацыя змяняецца: з восені адкрываецца асобная кафедра славянскіх моў і ўзначаліць яе А. Е. Супрун, які абараніў дысертацыю ў Ленінградскім універсітэце. І зноў я зразумеў, што мяне чакаюць неспадзяваныя павароты лёсу.


Славутыя лінгвісты Юрый Маслаў і Адам Супрун былі настаўнікамі Барыса Нормана і шмат у чым прадвызначылі яго навуковы шлях.

**— Ваша кандыдацкая была працягам дыпломнай працы, але ў доктарскай сфера даследавання змянілася.**

— Па-першае, я пачынаў свой шлях у навуку — калі гэта наогул можна назваць такім гучным словам — з вывучэння марфалогіі. Мне здавалася, што парадыгма слова, граматычныя формы слова, працэс граматыкалізацыі — усё гэта вельмі цікава, але паступова, паколькі займаўся зваротнымі дзеясловамі, я стаў, прабачце за выраз, скочваецца ў балота сінтаксісу, таму што гэта звязана са станам,ператварэннем сінтаксічных канструкцый. І ўжо адпрацаваўшы пэўны час ва ўніверсітэце, сцяміў, што мяне цікавіць сінтаксіс, асабліва з псіхалінгвістычным ухілам: як у свядомасці чалавека, моўцы і слухача, фарміруецца структура фразы, як ён разумее самую фразу, якое месца знаходзіць у фразе асобныя элементы, што такое, скажам, аманімія, адкуль бярэцца неадназначнасць, адкуль бяруцца маўленчыя канфлікты, непаразуменні і г. д. Так паступова я прыйшоў да тэмы доктарскай дысертацыі «Сінтаксіс маўленчай дзейнасці. Просты сказ».

**— Ці магчыма як-небудзь акрэсліць сферу вашых навуковых інтарэсаў? Бо калі бачыш назвы артыкулаў ці дакладаў на канферэнцыях, здаецца, што вас цікавіць вельмі многае.**

— Гэта праўда. Я займаюся шмат чым: і марфалогіяй славянскіх моў (перш за ўсё рускай, але крыху — балгарскай, польскай, беларускай), і сінтаксісам. Мяне цікавяць пэўныя аспекты лексічнай семантыкі, часам вельмі тонкія (напрыклад, звязаныя з імем уласным ці з законамі другаснай намінацыі). Мяне дагэтуль цікавіць псіхалінгвістыка (хаця б таму, што гэта тая навука, якая актыўна выкарыстоўвае эксперыментальныя метады, і, значыць, нешта можна даказаць наглядна), і сацыялінгвістыка, і прагмалінгвістыка.

І я магу сказаць, на чым гэты рознабаковы інтарэс базіруецца — на вялікай картатэцы, якая захоўваецца дома. Матэрыял (самі факты маўлення) у значнай ступені выцягвае праблему і фармуе яе. Далей ужо трэба пачытаць літаратуру, падумаць. Але ўсе мае інтарэсы, паўтаруся, звязаны з цікаўнасцю да фактаў маўлення.

**— А як абіраеце тэму для чарговага артыкула?**

— Разумееце, мова дае безліч пажыткy для розуму. Самая звычайная фраза, якая абсалютна нічога не значыць, можа даць нейкую зачэпку для роздумаў. Што значыць гэтае слова? А ці можна так сказаць?

Калі назапашваецца некалькі прыкладаў на адну тэму, яны задаюць кірунак пошуку. Але наогул усё адбываецца выпадкова.

Напрыклад, я цяпер пішу адну кніжку. І спадзяюся, што яе ўдасца выдаць. І ў гэтай кніжцы ёсць момант, звязаны са словам «супругі». Множны лік, усё зразумела. Што значыць «супругі»? Самы просты адказ: супругі — гэта 'муж і жонка' (першае значэнне). Другое значэнне слова «супругі» — гэта 'два мужы з розных шлюбаў'. Напрыклад: «Супругі пісалі віншавальнае слова, а іхнія жонкі гатавалі на кухні абед». Далей, «супругі» можа мець трэцяе значэнне: гэта 'дзве жонкі з розных шлюбаў'. Напрыклад: «Супругі Міхаіла Казакова да гэтай пары не могуць падзяліць яго спадчыну». І, нарэшце, уявім сітуацыю: прыйшлі ў рэстаран дзве сямейныя пары, яны знаёмыя. Яны замовілі нейкія стравы, гучыць музыка, і муж з адной пары запрасіў жонку з другой пары патанцаваць. За сталом засталіся, так бы мовіць, абломкі дзвюх сямейных пар: адзін муж і адна жонка. І вось ён кажа ёй: «Пакуль нашы супругі танцуюць, мы з вамі можам паразмаўляць». Ці можа слова «супругі» мець яшчэ і такое значэнне: 'муж з адной сям'і і жонка з іншай сям'і'? Я прывёў гэты прыклад сваім студэнтам і спытаў: «Ці можна так сказаць?» І вы ведаеце, меркаванні падзяліліся. Палова сказала: «Так, можна». Другая палова: «Не, гэта няправільна».

**— Ці любіце вы ўдзельнічаць у канферэнцыях?**

— Для мяне гэта магчымасць пабачыць сваіх знаёмых. Амаль ніякай навуковай карысці не маю. Канферэнцыя — гэта асаблівы жанр, і не ўсе выступоўцы ўмеюць пабудаваць свой даклад так, каб нейкае рацыянальнае зерне засталося ў памяці слухачоў.

**— А ў чым сакрэт вашай прадуктыўнасці: вам удаецца шмат чым цікавіцца, шмат ездзіць, шмат пісаць?**

— Не ведаю, можа, гэта дапытлівасць, такі жыццёвы азарт. Але што да прадуктыўнасці ў сэнсе «пісаць», то не такі ўжо я прадуктыўны. Ёсць шмат людзей, якія пішуць намнога больш за мяне і могуць пахваліцца тысячамі публікацый, многімі тамамі. Апошнім часам я крыху больш строга стаўлюся да сябе і лічу, што не трэба бегчы за колькасцю публікацый.

**— Як вы ацэньваеце сучасны стан лінгвістыкі як навукі?**

— Тое, што лінгвістыка развіваецца, — натуральна. Прычым лінгвістыка развіваецца як у плане метадалогіі ўвогуле, так і ў плане даследавання матэрыялу. Зараз усё больш цікавяцца буйнымі адзінкамі — выказваннем і тэкстам.

Мяне ж непакоіць і нават засмучае, што праз усякія грамадска-палітычныя катаклізмы навука вельмі моцна расшчапляецца. Груба кажучы, заходнія навукоўцы не чытаюць тое, што пішуць у нас, а ў нас не чытаюць тое, што пішуць на Захадзе. Навука, на жаль, кансерватыўная. Вось гэта бяда, і я думаю, што пераадолець яе вельмі складана.

**Гутарыла Вольга ГАРЫЦКАЯ**

**З рускай мовы пераклаў Мікіта СУПРУНЧУК**

# Дзеячы Вялікага княства



*Саверченко И. В. Блеск короны: Повесть-наррация, эссе / Иван Саверченко. — Минск : Мастацкая літаратура, 2014. — 326 с.*

Іван Саверчанка — прафесар, доктар філалагічных навук, вядомы ў першую чаргу як даследчык беларускай літаратуры XVI — XVII стагоддзя. Яго новая кніга прысвечана дзевяці выбітным асобам Беларусі, якія «ўнеслі вялікі ўклад у стварэнне беларускай дзяржаўнасці, нязменна ўмацоўвалі міжнародны аўтарытэт краіны, спрыялі росквіту нацыянальнай культуры». Прадказальна, большая палова кнігі — расповед пра дзяржаўных і рэлігійных дзеячаў эпохі Адраджэння: Астафія Валовіча, Сымона Буднага, Іпацея Пацея, Льва Сапегу, Язэпа Вельямін-Руцкага. Рознабаковая дзейнасць гэтых асобаў і асабліва іх літаратурная творчасць былі прадметам даследавання І. Саверчанкі ў манаграфіях першай паловы 1990-х гадоў. «Бляск кароны» — выданне, прызначанае шырокаму колу чытачоў, таму ў эсэ аўтар імкнуўся пісаць лаканічна і займальна.

Адчуваецца, што найбольш блізкія і цікавыя для І. Саверчанкі менавіта постаці XVI — XVII стагоддзяў. Аповесць-нарацыя з галоўным героем Усяславам Чарадзеем, эсэ пра Вітаўта Вялікага, Кастуся Каліноўскага і Вацлава Ластоўскага захапляюць менш. Гэтыя асобы патрэбны хутчэй для кантэксту, і беларускі гуманітарый наўрад ці прачытае пра іх штосьці новае. Іншая справа — шырокае кола рускамоўных чытачоў, якія праз «Бляск кароны», магчыма, упершыню даведаюцца, напрыклад, пра ваенныя паходы князя Вітаўта.

Кніга пра беларускіх палітыкаў розных гістарычных эпох — выдатны праект, хаця галоўных герояў магло б быць значна больш. Але вылучаны даследчыкам перыяд — час Люблінскай і Брэсцкай уній, войнаў і канфліктаў з суседнімі краінамі — патрабаваў ад дзяржаўных дзеячаў абачлівасці, хітрасці і розуму, адмысловых дыпламатычных здольнасцей. XVI стагоддзе адметнае таксама выданнем знакамітых Статутаў Вялікага Княства Літоўскага. Што тычыцца рэлігійных праблем, І. Саверчанка заўсёды побач з прыхільнікамі ўніі — выключэннем стаў Сымон Будны, які меў «правыя» погляды і ў палеміках настойліва «сцвярджаў неабходнасць дзяржаўных інстытутаў і ўрада», сам прымаў удзел у палітычных падзеях.

І эсэ, і аповесць-нарацыя, вызначаная як «расповед пра гістарычных асобаў і даўнія падзеі з элементамі мастацкага вымыслу», напісаны сур'ёзна, суха. Каб прывабіць рускамоўнага чытача, думаецца, стыль павінны быць больш яркі, індывідуалізаваны. Цытаты з лістоў і дакументаў І. Саверчанка падае ў перакладзе, хаця асобныя фрагменты на старабеларускай мове ўспрымаліся б арганічна — як у эсэ, прысвечаным Астафію Валовічу, дзе радкі з Прывілея прыводзяцца ў арыгінале. Затое для гасцей краіны і рускамоўных аматараў гісторыі чытанне будзе максімальна камфортным!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Ігар ЗАЛАТУСКІ:

# «Нельга жыць у стане адмаўлення»

### ДАБРАЧЫННЫ ВЕЧАР

Сустрэча з расійскім літаратуразнаўцам і крытыкам Ігарам Залатускім адбылася на дабрачынным Калядным вечары праваслаўнага прыхода імя Усіх Святых. Ігар Залатускі больш за шэсцьдзясят гадоў прысвяціў літаратуры. Самая вядомая яго кніга — «Гогаль», напісана ў 1979 годзе для серыі «Жыццё знакамітых людзей».

Як падкрэслівае расійскі крытык Юры Паўлаў, «гэта кніга, якая выйшла разам з «Астроўскім» М. Лобанава, «Ганчаровым» Ю, Лошчыца, «Дастаеўскім» Ю. Селязнёва, азначыла прынцыпова новы — хрысціянскі — этап у асэнсаванні рускай класікі. Названыя аўтары ўпершыню выступілі супраць іга рэвалюцыйна-дэмакратычнай, марксісцка-ленінскай, «левай» крытыкі. У адказ пачаліся шматлікія масіраваныя атакі з выкарыстаннем «артылерыі», «авіяцыі» з боку савецкіх крытыкаў-артадоксаў і лібералаў».

Рэцэнзіі і артыкулы Ігара Залатускага сталі значнай з'явай у развіцці расійскай крытыкі. Сёння ён працуе над дакументальнымі фільмамі, якія прысвечаны найбуйнейшым пісьменнікам XX стагоддзя. Фільм «Знак вайны» (2013), зроблены для канала «Культура», распавядае пра жыццё і творчасць Васіля Быкава — героя літаратурнай маладосці Ігара Залатускага. На Калядным вечары літаратуразнаўца падзяліўся роздумамі і ўспамінамі.

### ГАРЭЎ РЭЙХСТАГ

Мой бацька быў буйным разведчыкам. Зімой 1933 года, калі мне было тры гады, мы на машыне ехалі па Берліне — побач з плошчай, дзе гарэў Рэйхстаг. У 1937 г. рэпрэсіравалі бацьку, у 1941 — маці. Мяне адправілі ў дзіцячы дом, дзе жыццё было зусім не раем. Там працавалі па сістэме Антона Макаранкі, заслугі якога перад педагогікай, лічу, вельмі перабольшаны. Наш дзіцячы дом фактычна быў лагерам, там была жалезная дысцыпліна. Нас білі, але разам з тым кармілі — і мы не загінулі. Гэта была заслуга дзяржавы: яна клапацілася пра дзяцей «ворагаў народа», хай нават скажона, і яны выраслі не злодзеямі, не бандытамі. Нас вельмі падтрымлівалі педагогі, у школах тады часта працавалі былыя франтавікі. Шмат каму, як і мне, дапамагла вялікая руская літаратура...

### ХВАРОБА НІГІЛІЗМУ

У наш час працягваюць выдавацца раманы, аповесці і нават паэмы, але літаратура як такая, на мой погляд, адсутнічае. Магчыма, я памыляюся, калі кажу так сурова, але ў чым прычына таго, што людзі не хочуць чытаць стварэнні, аўтары якіх узнагароджваюцца прэміямі, з'яўляюцца на замежных кніжных кірмашах? Справа ў тым, што чытач адварочваецца ад нігілізму, які сыходзіць ад гэтай друкаванай прадукцыі. Хрыстос разумеў свабоду як самаадмаўленне. Нігілізм чужасны і супрацьпастаўлены хрысціянству. Калі чалавек падае, хрысціянства ўздымае яго, вяртае яму жыццё і нават веру ў жыццё. Нігілісты прайграюць на гэтым полі. І гэта нават мякка сказана! Цяпер мы перажываем хваробу нігілізму, адмаўленне ўсяго ў чалавеку, які памыліўся, заблукаў, сышоў у бок. Нельга заўсёды жыць у стане адмаўлення і сённяшняга, і мінулага, у стане здзеку з высокіх ідэй і ідэалаў. Нам патрэбна духоўнае прасвятленне. Любоў да бліжняга як да самога сябе — гэта закон жыцця. Іншага выйсця няма.

> **З кнігі «Гогаль» (1979):** *«Дзве ідэі супернічаюць ля вытокаў «Мёртвых душ» — ідэя сучасная і ідэя вечная. Гогаль застаецца Гогалем. Нягледзячы на ўрок, дадзены «Рэвізорам», ён піша для Расіі і пра Расію. Ён упэўнівае сяброў , што «мёртвы для бягучага», што трэба мець на ўвазе толькі нашчадкаў, а не подлую сучаснасць, — але для гэтай сучаснасці яму пісаць і пісаць. Такі ўжо ён пісьменнік».*

### БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

Гэта былі цудоўныя людзі. Асабліва запомніўся мне Янка Брыль — высакародны чалавек. З Алесем Адамовічам мы разам ездзілі шмат тысяч кіламетраў у адным вагоне, гулялі ў шахматы. Гарачы чалавек! Ён мне заўсёды прайграваў і вельмі злаваўся, хаця я, уласна кажучы, гуляць у шахматы не ўмеў. Мая апошняя сустрэча з Адамовічам адбылася на апошнім з'ездзе Саюза пісьменнікаў СССР. Ён паказаў мне свой ліст да Гарбачова (не ліст, а крык чалавека, які належыць свайму народу), пра тое, што пагражае Беларусі. Ліст з просьбай знайсці супрацьдзеянне жахлівай трагедыі Чарнобыля... Са многімі беларускімі пісьменнікамі я пазнаёміўся ў доме творчасці ў Караліцчавічах. Усе яны заслугоўваюць толькі добрых успамінаў. Я шкадую, што іх ужо няма, і шкадую, што зусім не ведаю, пра што пішуць беларускія пісьменнікі цяпер.

З Васілём Быкавым мае сяброўства пачалося ў Ялце ў 1972 годзе, а потым працягвалася ў кароткіх лістах. Быкаў быў прыкладам душэўнай прыгажосці, шчырасці, непрымання ўсялякай хлусні. І ён цяжка перажываў, калі ў «Праўдзе» (31 жніўня 1973 г.) быў змешчаны ліст супраць Аляксандра Салжаніцына і Андрэя Сахарава, падпісаны ў тым ліку прозвішчам Быкава... Васіль расказваў мне, што адмовіўся ставіць свой подпіс, і я, безумоўна, верыў. Але зласліўцы пачалі паказваць на яго пальцам. Ён як ніхто іншы заслугоўваў дзяржаўных прэмій, бо быў сапраўдным творцам, а не проста псаваў паперу, як многія ў тыя часы. Але ў 70-я гады нешта здарылася ў яго душы: напэўна, стаміўся. Ад уласнага супрацьстаяння падману, дэмагогіі і так далей...

> **З кнігі «Час выбару» (1976):** *«В. Быкаў — пісьменнік абвостранай маральнай свядомасці, у яго аповесцях — боль і полымя, яны нібы згараюць у сваім нецярпенні неадкладнага адказу, неадкладнага вырашэння сітуацыі. Іх хада бескампрамісная да ўсялякага хістання, да ўсялякага падаўжэння часу выбару. Ды час гэты часцей за ўсё не гадзіна, а хвіліна, імгненні...»*

Я ставіўся да Быкава з нязменнай павагай, таму і зрабіў пра яго фільм. У сваіх працах імкнуся звяртацца да тых асоб, якіх люблю. Гэта абавязковы шлях у творчасці. Лічу, што мы павінны спагадліва ставіцца да людзей мінулага стагоддзя — і быць удзячнымі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Даведка «ЛіМа»**

Ігар Залатускі — лаўрэат прэміі Аляксандра Салжаніцына, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі творчай інтэлігенцыі «Свет культуры», старшыня гогалеўскага фонду ў Маскве. Аўтар шэрагу кніг па гісторыі рускай літаратуры («Споведзь Заіла», 1989; «На лесвіцы ў Раскольнікава», 2000; «Смех Гогаля», 2008), дакументальных фільмаў «Вечары ў доме Гогаля» (1992 — 1996), «Апраўданне Гогаля» (2009) ды інш.

# Сябры Васіля Цёркіна

Сёлета, 20 — 21 чэрвеня, Смаленскі дзяржаўны ўніверсітэт праводзіць навукова-практычную канферэнцыю «Літаратурная спадчына А. Т. Твардоўскага ў змене пакаленняў».

Дыскусіі будуць прысвечаны 105-годдзю з дня нараджэння геніяльнага паэта XX стагоддзя, аўтара паэмы «Васіль Цёркін», і 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, адлюстраванай у лепшых творах Аляксандра Твардоўскага. Плануецца разгледзець наступныя пытанні: Вялікая Айчынная вайна ў творчай свядомасці і літаратурнай спадчыне А.Т. Твардоўскага; філасофскія і гістарычныя карэнні твардоўскіяніны; праблемы псіхалогіі творчасці А. Твардоўскага; жанравая палітра А. Твардоўскага; праблемы мастацкага метада і стылю А. Твардоўскага; паэмны свет А. Твардоўскага; мастацкая і аўтабіяграфічная проза А. Твардоўскага; публіцыстыка А. Твардоўскага; А. Твардоўскі на тэатральнай сцэне; А. Твардоўскі і літаратуры братніх славянскіх народаў.

У праграме канферэнцыі і літаратурнае свята ў гонар юбілею паэта. Навукоўцы, пісьменнікі, госці наведаюць музей-сядзібу А. Твардоўскага на хутары Загор'е Пачынкоўскага раёна, што на Смаленшчыне.

Варта нагадаць, што жыццё і творчасць аўтара «Васіля Цёркіна» цесна звязаны з Беларуссю, беларускай літаратурай. Вядома сяброўства Аляксандра Трыфанавіча з народным паэтам Беларусі Аркадзем Куляшовым, шчырае спрыянне паэта і галоўнага рэдактара часопіса «Новый мир» класіку беларускай літаратуры Васілю Быкаву. А ў газеце «Красноармейская правда» (падчас вайны — газета Заходняга, а пасля 3-га Беларускага фронту; сёння — «Белорусская военная газета») друкаваліся раздзелы з паэмы «Васіль Цёркін» і нарысы А. Твардоўскага пра вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Замест магніціка — каталог?

**Выхад праз краму з сувенірамі — такі прынцып працы ўжо даўно прымяняецца ў музеях Еўропы. Гэтай практыкай актыўна кіруюцца і ў Беларусі. Пасля наведвання экспазіцыі ў спецыяльных шапіках ці крамах госці ўстановы могуць набыць магніцік, прадметы быту з сімволікай музея, буклет або грунтоўнае навуковае даследаванне. Ці часта наведвальнікі беларускіх музеяў сярод мноства тавараў выбіраюць кнігі? Ці патрэбна музейным установам займацца падрыхтоўкай уласных выданняў? На якую публіку арыентавацца? На гэтыя і іншыя пытанні ў гутарцы з карэспандэнтам «Кніжнага свету» адказвае намеснік дырэктара па навуковай рабоце Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж», кандыдат гістарычных навук Зміцер Яцкевіч.**



Фота Кастуся Дробава

**— Спадар Зміцер, у працы гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» падрыхтоўка і выданне кніг — важны аспект?**

— Адзін з найбольш важных. Навуковыя даследаванні нашы супрацоўнікі праводзяць у рэчышчы агульнай працы ўстановы. Стараемся не прапускаць важныя даты, звязаныя з такімі асобамі, як Мікалай Радзівіл Чорны, чыё 500-годдзе адзначаем сёлета, Марыя Дарота Дэ Касталян. Юбілеям будзе прысвечана і выстаўка, і міжнародная канферэнцыя, і «круглы стол». Для выставачных праектаў рыхтуем грунтоўныя аналітычныя гістарычныя даведкі, працуем са зборнікамі дакументаў, удзельнічаем у канферэнцыях. Наш музей-запаведнік — помнік, унесены ў спіс ЮНЕСКА, ён аб'яўлены базавай арганізацыяй СНД па кірунку «музейная справа». Таму выдавецкая дзейнасць лагічна вынікае з навукова-даследчай працы. У канферэнцыях музея прымаюць удзел нашы супрацоўнікі, якія, не маючы навуковых ступеняў, нядаўна скончыўшы ўніверсітэт, ужо цяпер прадстаўляюць вельмі цікавыя і грунтоўныя даклады, уводзяць у навуковы ўжытак новыя факты і дакументы. Гэта сведчыць пра многае.

**— Дзе можна набыць кнігі, падрыхтаваныя ў музеі-запаведніку?**

— Дагэтуль існавала меркаванне, што дастаткова прадаваць нашы выданні ў трох крамах у межах музея-запаведніка. Тут людзі, якія наведваюць музей, могуць набыць і нашы кнігі, і выданні, прысвечанныя актуальным пытанням гісторыі і культуры Беларусі. З улікам таго, што вельмі многа наведвальнікаў у Нясвіж прыязджае з-за мяжы, гэта вельмі зручна. Турысты не ў стане наведваць многія крамы і шукаць выданні менавіта нашага музея ці па нейкім аспекце гісторыі Нясвіжчыны. Але час паказаў, што варта працаваць з кнігарнямі, якія знаходзяцца ў сталіцы і ў абласных гарадах. Таксама адзін з магчымых кірункаў — гандаль кнігамі па пошце, з мінімальнай аплатай распаўсюд электронных версій. Над гэтым мы цяпер пачынаем працаваць.

**— Сучасны музей — не толькі ўстанова, дзе можна паглядзець выстаўку, але і важны навуковы цэнтр. У Нясвіжы ладзяцца канферэнцыі, «круглыя сталы», семінары. Наколькі важна выдаваць адмысловыя зборнікі па выніках гэтых форумаў? Хто іх чытае?**

— Зборнікі запатрабаваны не толькі ў аўтараў і іх калег, але таксама і ў многіх іншых навукоўцаў у Беларусі і за мяжой. Апошні прыклад — выхад зборніка «Прыватнаўласніцкія гарады Вялікага Княства Літоўскага: лёс праз стагоддзі». Інфармацыя пра гэтую кнігу, дадзеная ў сацыяльных сетках выдаўцом Андрэем Янушкевічам, выклікала сапраўды шырокую зацікаўленасць. Людзі пыталіся, як і дзе можна набыць кнігу. Мы рэгулярна рэалізуем кнігі праз нашы крамы, але трэба ўжо шукаць іншыя формы. Сёння людзей, якія цікавяцца мінуўшчынай краю, вельмі многа. Мы разумеем, што выданне па накладзе даволі абмежаванае, але для нас самае галоўнае — змест, навуковы ўзровень артыкулаў, даследаванняў. Менавіта яны даюць права меркаваць, што кніга будзе даволі папулярнай у колах аматараў мінуўшчыны. Тым больш што тэма прыватнаўласніцкіх гарадоў асобна падчас канферэнцый, «круглых сталоў» дагэтуль не абмяркоўвалася. Асабліва пры ўліку, што большасць гарадоў і мястэчкаў ВКЛ былі прыватнаўласніцкімі і складалі аснову сацыяльнага ладу. У дзяржаўных гарадах жыццё было крыху іншым. Гэты кірунак даследаванняў дазваляе пабачыць, якая разнастайная наша гісторыя, нават калі разглядаць толькі гарадскі аспект. Параўнанне беларускай гарадской гісторыі з мінуўшчынай гарадоў Рэчы Паспалітай ці далёкага замежжа якраз і выклікае сёння цікавасць у даследчыкаў Беларусі і іншых краін.

**— Што найбольш цікавае ў зборніку?**

— Тут прадстаўленыя самыя новыя даследаванні, якія ў Беларусі друкуюцца ўпершыню і часам зусім іначай раскрываюць гісторыю прыватнаўласніцкіх гарадоў з Магдэбургскім правам, іх сістэму кіравання, суда… У зборнік увайшлі матэрыялы, прысвечаныя непасрэдна Нясвіжскаму магістрату. Гэта, да прыкладу, праца Ганны Філанец — грунтоўнае даследаванне, якое базіруецца на архіўных крыніцах. Большасць інфармацыі ўводзіцца ў навуковы ўжытак упершыню. Праца з архіўнымі дакументамі вядзецца зараз мэтанакіравана, у нас існуе электронны архіў дакументаў, якім актыўна карыстаемся. Мы звяртаемся да актавых кніг Нясвіжскага магістрата, што захоўваюцца ў гістарычных архівах Беларусі, Літвы, Польшчы. Усе дакументы карысныя не толькі пры навукова-даследчай дзейнасці музея, але і ў працэсе развіцця ўстановы, пры стварэнні новых экспазіцый, выставак, рэканструкцыі многіх аб'ектаў. Вынікі працы — у новым зборніку артыкулаў канферэнцыі, а таксама штогодніку *Acta anniversaria*, першы выпуск якога хутка пабачыць свет.

Варта падкрэсліць, што нашы мерапрыемствы, даследаванні скіраваныя на вывучэнне таго, чым з'яўляліся Нясвіжскі магістрат, ратуша, чым займаліся жыхары горада ў XVI — XVIII стагоддзях, якія былі адносіны ўладальнікаў да сваіх гарадоў, мяшчан. Усё гэта ў новым зборніку. Мы працягваем працу па вывучэнні прыватнаўласніцкіх гарадоў, і тэма раскрываецца зусім у іншым святле. Да прыкладу, экспазіцыя, што была зробленая ў ратушы гадоў 10 таму і ўпершыню адлюстравала магістрат, гарадскую ўладу ў XVI — XVIII стагоддзях на Беларусі, ужо састарэла. Сёння высвятляецца, што ўсё было значна цікавей. І менавіта ў гэтых дробязях, адметнасцях, у гісторыі штодзённасці — наш галоўны інтарэс. Так праз смугу стагоддзяў пачынаюць бачыцца жывыя людзі, якія былі на кіраўнічых пасадах. Але аб'ём гістарычных матэрыялаў, што існуюць па родзе Радзівілаў, дазваляе меркаваць: нас чакаюць новыя адкрыцці. Да прыкладу, у Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца амаль 26 тысяч спраў, 30 тысяч — у Варшаве. Нам, нашым дзецям і ўнукам яшчэ доўга давядзецца з імі працаваць. Дзякуючы архівам, якія пакінулі менавіта Радзівілы, мы маем магчымасць адчуваць сябе вартымі еўрапейскай гістарычнай спадчыны. У гэтым пераконвае фактычна кожны дакумент.

**— У якім кірунку зараз вядуцца даследаванні супрацоўнікаў музея-запаведніка?**

— Мы працягваем працу па гарадской тэматыцы, па даследаванні гісторыі роду Радзівілаў, па палацава-замкавай гісторыі. Што да апошняй тэмы, то тут, напэўна, наперадзе ідзе замкава-паркавы комплекс «Мір», але будзем спрабаваць не дубліраваць адзін аднаго ў працы. У нашым музеі-запаведніку заснавана серыя *Studia Nesvisiensia*, і ў яе межах ужо пабачылі свет два выданні. Гэта каталог Радзівілаўскіх медалёў — унікальная праца, дзе ўпершыню перакладзеныя легенды — тэксты Радзівілаўскіх медалёў, якія з'яўляюцца літаратурнымі творамі, а таксама паказаныя самі медалі з нашай калекцыі — гістарычныя помнікі і творы мастацтва. У межах серыі выйшаў і зборнік «Прыватнаўласніцкія гарады Вялікага Княства Літоўскага». Наступны штогоднік *Acta anniversaria* таксама працягвае нашу справу. Гэта даследаванне роду Радзівілаў, ардынацыі, гарадоў, крыніц, без якіх мы наўрад ці зможам сказаць нешта новае. 2015-ы — юбілейны год Мікалая Радзівіла Чорнага, яшчэ летась мы заявілі канферэнцыю, прысвечаную гэтай асобе, хутка будзем рыхтаваць новы штогоднік.

**— Вы звярнулі ўвагу, што ў Мірскім замку ўжо актыўна вывучаюць тэму палацава-паркавай гісторыі, якой у Нясвіжы таксама цікавяцца. Ці існуе паміж музейнымі ўстановамі пэўнага кшталту канкурэнцыя — спаборніцтва за самую цікавую і, магчыма, прыбытковую тэматыку для правядзення даследаванняў і падрыхтоўкі выданняў?**

— Дубліраваць ці спаборнічаць, бегчы навыперадкі мы не бачым сэнсу, бо кірункаў па даследаваннях роду Радзівілаў, гарадоў, палацаў вельмі многа. Мы выдатна разумеем, што няма сэнсу займацца тым жа, лепш зрабіць нешта іншае. І, па вялікім рахунку, на канферэнцыі ў розныя музеі найчасцей прыязджаюць адныя і тыя ж даследчыкі. Навошта паўтараць адзін аднаго? Мы заўсёды лічылі, што істотней супрацоўнічаць і рабіць адну справу ў розных кірунках, пакрысе складаць цаглінкі ў агульны падмурак.

**— Мы з вамі вялі гаворку ў асноўным пра навуковыя выданні для спецыялістаў. А як наконт навукова-папулярных ці мастацкіх гістарычных кніг?**

— Сапраўды, музей-запаведнік працуе і ў гэтым кірунку. У нас даволі часта выходзяць буклеты, альбомы-каталогі, прысвечаныя выстаўкам. Штогод рыхтуецца да пяці падобных кніг. Нават ужо згаданы каталог Радзівілаўскіх медалёў — гэта з аднаго боку навуковае выданне, але з іншага і папулярнае. Якасныя ілюстрацыі дазваляюць уявіць, што ёсць у калекцыі нашага музея. Зараз рыхтуецца рэпрэзентацыйны альбом, дзе паказана багацце і разнастайнасць фондаў Нясвіжа: архітэктура, рэчы, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Музей-запаведнік актыўна вядзе працу па набыцці новых прадметаў, і, адпаведна, мы заўсёды маем што прадставіць і паказаць.

**— Як часта ў сувенірных крамках набываюць кнігі, буклеты ці нейкую іншую выдавецкую прадукцыю? Ці можа кніга канкураваць, да прыкладу, з магніцікамі?**

— Натуральна, часцей за ўсё набываюць магнічікі. Большасць нашых наведвальнікаў — школьнікі. Зразумела, што ім навуковыя выданні ці нават каталогі зусім не патрэбныя. Варта ўлічваць, што наклад 100 — 200 асобнікаў кнігі пры 400 тысячах наведвальнікаў на год — гэта не колькасць. Таму продаж зборнікаў навуковых артыкулаў у крамах — не галоўны наш заробак. Сувенірная прадукцыя разлічваецца на масавага наведвальніка, але мы стараемся прадставіць выданні на любы густ. Гэта навукова-папулярныя кнігі, буклеты, брашуры, флаеры, календарыкі… Трэба памятаць, што ў тым ліку і з дапамогай гэтай прадукцыі музей працуе на самаакупнасць. Будуць новыя наведвальнікі, якія набудуць магнічікі і календарыкі — з'явяцца і грошы, каб працягваць навуковую дзейнасць, праводзіць канферэнцыі і выдаваць зборнікі для спецыялістаў.

Марына ВЕСЯЛУХА

**Дзеля гэтай гутаркі важна было знайсці творцу не проста з правінцыі, а чалавека выспеленага як літаратара, які ведае беларускія гарызонты, але сам малавядомы.**

# Творцы і глыбіня



Менавіта такі Аляксей Галаскок з Ганцавіч. Родам з вёскі Талалайкі Зэльвенскага раёна. Сям'я была знаёмая з Ларысай Геніюш. Невыпадкова да літаратуры цягнула з маладога ўзросту. Але прафесійным лёсам стала вайсковая служба. Ды за чвэрць стагоддзя расстання з радзімай А. Галаскок не забыў роднай мовы. На заслужаным адпачынку ўсёй душой аддаўся мастацтву слова, перадусім паэзіі. У творчым багажы літаратара — 6 зборнікаў. У ганцаўскім літаратурным працэсе ён удзельнічае не толькі як творца, але і арганізатар — суполкі аматараў прыгожага пісьменства, паэтычных старонак у мясцовай прэсе, шматлікіх мерапрыемстваў ва ўстановах культуры.

**— У чым спецыфіка літаратара на перыферыі? Тэмы, праблемы, жанры, бытавыя аспекты?..**

— Праблем выбару тэмы ў нас не існуе. Нехта піша пра мінулае. Шмат пішуць пра бацькоў. Людзі сталага веку — пра пакінутыя мясціны. Але ёсць і выключэнні. Шмат пра каханне ў Вячаслава Несцерука, якому ідзе дзявяты дзясятак. А 16-гадовая Яўгенія Пракапчук пранікнёна і па-філасофску піша пра будучыню, сучаснасць, веру ў Бога. Пра тое, што бачаць, што адчуваюць, чым ганарацца, шчыра і адкрыта расказваюць дзеці з літаратурнага гуртка «Верасок». Шмат твораў пра родную мову. Праблемы маралі, чалавечыя ўзаемаадносіны турбуюць Ірыну Рудкоўскую (сястру берасцейскага паэта Міхася Рудкоўскага). Традыцыйна шмат увагі ўдзяляецца жыццю ў сваім родным кутку.

**— Праблема публікавання. Як яна выглядае ў глыбінцы? Ці трапляеце ў выданні рэспубліканскага ўзроўню?**

— Праблема вырашальная. Пры «Ганцавіцкім часе» дзейнічае літаратурнае аб'яднанне «Пралеска», якое мае сваю штомесячную старонку. Гэтага хапае, каб свет пабачыла лепшае са створанага пралескаўцамі. Рэдакцыя не цураецца іншых форм дапамогі: летась быў выдадзены зборнік «Пралескавы край», куды ўвайшлі творы 15 аўтараў. Газета «Савецкае Палессе», школу якой пад крылом Васіля Праскурава прайшло старэйшае пакаленне нашых паэтаў, таксама рэгулярна друкуе літстаронку пад красамоўнай назвай «Рунь».

Пралескаўцы былі шырока прадстаўлены ў берасцейскай «Жырандолі». Вершы члена СПБ Святланы Локтыш і мае неаднаразова змяшчаліся ў «ЛіМе» і «Маладосці». Самае лепшае з напісанага нашымі землякамі розных пакаленняў увайшло ў літаратурную візітоўку раёна — анталогію «Паміж Бобрыкам і Ланню».

Дапамагае выдавацца і мясцовая бібліятэка імя В. Праскурава. Апошнім часам дзякуючы арттэхніцы многія, каму недасяжныя вядучыя выдавецтвы, атрымалі свае зборнічкі. Большасць такіх кніг, што праўда, можна назваць самвыдатам. Але на раённым узроўні прадукцыя разыходзіцца, значыць, карыстаецца папулярнасцю. Гэта вынік, паказчык нашага літаратурнага працэсу, стымул (асабліва для маладых), прыклад для многіх, як можна цікава і творча крочыць па жыцці.

**— Як сталіца і літпрацэс у цэлым бачацца з глыбінкі?**

— Як у мястэчку, так і па вёсках ладзяцца літаратурныя мерапрыемствы з актыўным удзелам паэтаў-землякоў. Рэзананс атрымалі імпрэзы па ўшанаванні Віктара Гардзея. Паэты не толькі самі прыязджаюць на радзіму, але і прывозяць сваіх калег. Аўтографы жыхарам раздавалі пісьменнікі Уладзімір Ліпскі, Анатоль Зэкаў, Казімір Камейша і многія іншыя. Гэта каталізуе цікавасць да айчыннай літаратуры нават звычайных чытачоў, не кажучы пра тых, хто піша сам. Разам з тым і мы выязджаем за межы раёна. Нядаўна, напрыклад, я наведаў бацькаўшчыну: у жніўні ў Зэльвенскай раённай бібліятэцы адбылася прэзентацыя маёй апошняй кнігі «Асенняя бліскавіца».

**— Як вы лічыце, ці можна з дапамогай літаратурнай творчасці стаць знакамітым?**

— Хоць і кажуць, што сёння чытаюць мала, але людзі прыходзяць на мерапрыемствы, значыць, літаратура цікавіць.

Канечне, месца пражывання творцы важнае. Але не меншае значэнне мае адданасць літаратуры і творчасці. Свежы прыклад — Яўгенія Пракапчук, якая стала пераможцам конкурсу маладых літаратараў Брэстчыны ў 2013 і 2014 гадах.

Гутарыў
**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

*Прэзентацыя*

# Свая тэрыторыя




Уладзімір Мароз — асоба рознабаковая: не толькі сцэнарыст, эсэіст і кінарэжысёр, але паэт і празаік. Не так даўно пабачыў свет зборнік яго вершаў «Крыжы на ростанях».

Калі чытаеш вершы Уладзіміра Мароза, то ўяўляеш сталага, з вялікім жыццёвым вопытам чалавека, задуменнага і разважлівага, крыху сумнага, аднак летуценнага.

Паэтычна-філасофскую вандроўку адкрывае раздзел «Горнія скрыжалі. Іерусалімская нізка». Кожны верш раздзела — своеасаблівае разважанне. У творах заўважаецца адценне лёгкага суму, але не песімізму. Гэта стан, калі душа патрабуе спакою і цішыні.

Большую частку зборніка складаюць санеты. Асаблівую ўвагу хацелася б звярнуць на вянок санетаў раздзела «Крыжы на ростанях». Яго вызначае філасофская скіраванасць, якая спалучаецца з патрыятычнай і гістарычнай тэмай. Паэт нібыта стаіць перад выбарам: жыць мінулым ці будучыняй? Але што б мы ні абралі, мінулае — гэта частка нашага жыцця, страчваючы якую губляеш сябе.

Даволі цікава пабудаваны раздзел санетаў «Антытэза Малевічу. Вясёлкавыя санеты». У. Мароз супрацьпастаўляе чорнаму квадрату К. Малевіча вясёлку. На кожны колер у паэта ёсць санет. Кожнаму колеру ён надае сімвалічнасць: чырвоны — жыццё, аранжавы — сонца і каханне, жоўты — расстанне, зялёны — супакой, блакітны — надзея, сіні — радзіма, фіялетавы — слова і творчасць.

Тэма творчасці займае вялікае месца ў кожнага паэта. Уладзімір Мароз прысвячае ёй цэлы раздзел «Чырвоны радок», які таксама складаецца з санетаў. Напісанне верша паэт параўноўвае з працай раба на галеры.

Чытаючы вершы У. Мароза пра каханне, таксама адчуваеш ноткі суму:

*І каханне разбілі ў аскепкі —*
*Нашу еднасць як скленць наноў?*
*Не ратуюць спатканні-налепкі,*
*Што здараюцца водгуллем сноў.*

Аўтар упэўнены: хочаш кахаць і быць каханым — умей ахвяраваць.

Раздзел «Свая тэрыторыя» змяшчае роздумы і разважанні паэта на розныя тэмы. Тут і каханне, і жыццё, і пейзажная лірыка, і прысвячэнні. Нават японскае хоку ёсць!

Паэтычная вандроўка заканчваецца раздзелам «Цесная брама. Евангельскія радкі», што складаецца з верлібраў-маналогаў. Сем маналогаў (сем — магічная лічба) напісаныя нібы не аўтарам, а самімі персанажамі: падарожнік, сейбіт, пастух і іншыя. Іх маналогі — гэта малітвы, якія традыцыйна заканчваюцца словам «Амінь».

Кожная старонка паэтычнага зборніка Уладзіміра Мароза — маленькі роздум, які надоўга застаецца ў памяці.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

# Кастынг… у тэатр Галубка

Крыху больш як два гады таму, 15 мая 2012 года, у Мінску прайшла навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 130-годдзю першага народнага артыста Беларусі, паэта, празаіка, драматурга, рэжысёра Уладзіслава Галубка. Лёс склаўся так, што зборнік матэрыялаў гэтага форуму з сімвалічнай назвай «Беззапаветнае служэнне народу» пабачыў свет толькі летась (Мінск: Беларуская навука, 2014).

Ды, думаецца, такая часавая дыстанцыя паміж канферэнцыяй і публікацыяй артыкулаў хутчэй на карысць. Тэксты зборніка сёння ўспрымаюцца не як друкаваны варыянт дакладаў, але як частка грунтоўнай калектыўнай працы, прысвечанай яркай асобе Уладзіслава Галубка. Кніга будзе цікавай літаратуразнаўцам і мастацтвазнаўцам, даследчыкам паэзіі і драматургіі, студэнтам, выкладчыкам і навукоўцам. Творчасць Уладзіслава Галубка тут разглядаецца з розных аспектаў: паэт-рамантык, строгі рэжысёр, стваральнік беларускай літаратурнай мовы, празаік…

Скрупулёзныя навуковыя даследаванні асобных аспектаў працы і творчасці Галубка чаргуюцца ў кнізе з амаль лірычнымі расповедамі пра тэатральнае жыццё Беларусі 1920 — 1930-х гадоў. У ліку найбольш цікавых і захапляльных згадаю артыкул кандыдата мастацтвазнаўства Тамары Гаробчанка «У Галубкоўскай акцёрскай супольнасці». Справа ў тым, што і маці, і бацька Тамары Яўгенаўны былі акцёрамі ў трупе Уладзіслава Галубка. На падставе ўспамінаў сваёй маці даследчыца распавядае пра тое, як праходзіў кастынг акцёраў у трупу, як жыў калектыў тэатра, як сам Галубок сябе паводзіў падчас падрыхтоўкі новага спектакля. Так, Тамара Гаробчанка піша:

«На ўсё жыццё Надзея [Надзея Нічыпараўна Шкалярэнка] запомніла першую сустрэчу з Уладзіславам Іосіфавічам. Ён прапанаваў дзяўчыне выканаць эцюд: старая жанчына ідзе па дарозе, пільна паглядаючы навокал. І раптам бачыць, што на адным з дрэваў вісіць яе… сын. Рабілася гэта наўмысна, каб выявіць фантазію, тэмперамент, здольнасць знайсці нестандартнае рашэнне ў экстрэмальных умовах. У канцы нямога эцюда Надзя моцна загаласіла. Галубок застаўся задаволены».

Жыццё акцёраў трупы Уладзіслава Галубка нельга назваць лёгкім. Штодзённыя заняткі па мове, музыцы, танцах, бясконцыя рэпетыцыі. Многія рашэнні акцёры павінны былі прымаць самастойна, кіруючыся толькі агульнымі парадамі рэжысёра. «Паколькі тэрмін для пастаноўкі спектакля быў вельмі кароткі (здаралася, выпускалі яго за дзве-тры рэпетыцыі), — піша Тамара Яўгенаўна, — Галубок вызначаў асноўную звышзадачу спектакля і асноўную лінію паводзін кожнага персанажа. Выканаўцы ж узбагачалі свае ролі дэталямі, канкрэтнымі рысамі». Ды гэтыя цяжкасці кампенсаваліся добразычлівасцю публікі, асалодай ад творчага працэсу, а таксама прыязнай атмасферай, якая панавала паміж акцёрамі трупы. Так, даследчыца зазначае: «Па ўспамінах маці, тэатральны калектыў быў адной вялікай сям'ёй. Не зважаючы на становішча ў трупе (прэм'ер ці статыст), жылі вельмі дружна, весела, усім дзяліліся, усё рабілі разам».

Адметна, што канферэнцыя з нагоды 130-годдзя Галубка стала не проста падсумаваннем вынікаў працы даследчыкаў у вывучэнні спадчыны майстра, але дазволіла ўзняць і абмеркаваць актуальныя пытанні развіцця сучаснага беларускага тэатра. Агульная рэзалюцыя, што таксама ўвайшла ў зборнік, можа стаць добрым падмуркам для далейшай грунтоўнай дыскусіі пра лёс і ролю айчыннага тэатральнага мастацтва.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Счастье по расписанию

Далёкое будущее. Миром правит всемогущее Общество, власть, контролирующая каждый шаг своих граждан. Антиутопия Элли Каунди «Непокорные», вышедшая в «Издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», — фантастическая история троих молодых людей, бросивших вызов эпохе тотального подчинения.

Что есть на завтрак, какую носить одежду, с кем строить семью, сколько времени посвящать чтению книг и даже когда умирать — всё решается «сверху». Эмоции и чувства, разумеется, под запретом. Кому нужны проблемы и хлопоты, разочарования и утраты? Наслаждайтесь комфортом, равенством, спокойствием и отсутствием мучительного выбора! Хотите, например, сходить в кино или на свидание? Будьте добры, миритесь с присутствием хмурых и строгих чиновников — поверьте, так безопаснее. Кто бы мог подумать, что программа, призванная создать идеальную жизнь, терпит крах. Сбой в системе порождает протест в душах тех, кто ещё не утратил своей человечности и стремления к свободе. Это напоминает культовое творение Евгения Замятина «Мы», не правда ли? Только по духу, потому что сюжет «Непокорных» хоть и намного проще, но абсолютно иной. И очень волнующий!

Повествование начинается так стремительно, что не успеваешь понять: что и почему здесь происходит? Дело в том, что «Непокорные» — вторая часть трилогии, продолжение «Обручённых». Но, как бы ни было, напряжение по мере развития событий рассеивается, уступая место любопытству и сопереживанию.

Кассия, изнурённая тяжёлой работой в трудовом лагере, не теряет надежды найти своего возлюбленного, Кая, отвергнутого Обществом и высланного в Отдалённые провинции…

В первой части семнадцатилетней героине предстояло пройти Банкет Обручения, где «добрые люди» подобрали ей пару — друга детства по имени Ксандер. Казалось бы, всё прекрасно и все счастливы, только вот Кассия обнаруживает ошибку в программе — оказывается, её будущим мужем должен был стать другой человек… Вместо того чтобы забыть о случившемся и покорно смириться с правилами, юная мечтательница влюбляется в мужчину, которого Общество считает «отклонением от нормы» и высылает на верную смерть. Бунт? Совершенно верно!

Тайное Восстание против сложившихся утопических устоев на фоне любовного треугольника, хитрого переплетения судеб, тёмных закоулков души, смертельной опасности и неубиваемой веры в освобождение — пожалуй, так выглядит краткий набросок романа.

Действие в «Непокорных» разворачивается от лица двоих — Кая и Кассии, что создаёт дополнительную интригу и динамичность. Есть здесь и третий главный персонаж — Ксандер. Он словно в тени, появляется как будто между прочим, но автор романа упорно намекает, что этот парень ещё подтвердит пословицу «В тихом омуте…».

Главы обрываются на самом интересном, «перепрыгивая» от одной истории к другой. Такой подход автора оправдан: текст не создает эффекта колыбельной и не раздражает внимание. Читатель, наоборот, находится в постоянной фазе учащённого сердцебиения, с волнением ожидая: что же будет дальше?

«Обществу очень нужно, чтобы мы изображали крестьян и тем самым заманивали сюда врага, вводя его в заблуждение», — так описывается место, куда забросили Кая и других «аномальных» личностей. Это и есть так называемые Отдалённые провинции. Реки здесь отравлены, на полях растёт убогий хлопок, рядом находятся голые ущелья,




а люди умирают каждый день, так и не возвращаясь, вопреки обещаниям власти, домой. «Басовые звуки тяжёлых выстрелов, сопрано криков, дрожащий тенор собственного страха» окутывают Кая с ног до головы. Он и не подозревает, что на другом конце «провода» Вселенной его ищет та, кому он дорог больше всего на свете…

«Кай всецело в моей памяти, глубоко в моём сердце, тепло его ладоней согревает мои пустые руки». Кассия, как и подобает девушке, в своих рассуждениях более эмоциональна, но в поступках, тем не менее, храбра, как Кай. Она отрекается от стабильного существования, дома и работы, уготованных Обществом, и пускается в опасный путь — прямиком в «логово смерти», чтобы отыскать родного человека. Маленькая, хрупкая, с вечно спутанными каштановыми волосами, но гордая и сильная, — так говорит о Кассии автор. И словно шепчет между строк: любовь поможет ей выжить…

Что ждёт юношу и девушку при встрече? Смогут ли они сохранить друг друга или, наоборот, разочаруются? Выберутся ли на волю, преодолев Разлом из огромных скал и каменных лабиринтов, останутся ли живы? И, наконец, падёт ли жестокое по своей сути Общество, обретут ли люди долгожданную свободу?

В книге много трогательных моментов: сокровенные разговоры при свете луны, старые письма и лепестки, хранящиеся в мешочке за поясом, стихи, которые произносят влюбленные вдали друг от друга, надписи на песке.

Среди второстепенных героев есть яркие, запоминающиеся — хотя бы противоречивая Инди, попутчица Кассии, настоящее «пламя в каменной оболочке».

Не думайте, что «Непокорные» — копия «Делириума», «Голодных игр» или других фантастических циклов для подростков. Творение Элли Каунди — это взгляд на привычные вещи, но под совершенно другим углом.

**Мария ВОЙТИК**

# «Шекспир» в индийских джунглях

Сумеет ли скромная американская девушка Келси разрушить древнее индийское проклятие, превратившее прекрасного и храброго принца Дирена в белоснежного хищника с лазурными глазами? Книга Коллин Хоук «Проклятие тигра», вышедшая в «Издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», — опасное путешествие в лучших традициях Индианы Джонса.

Разгадать пророчество богини-воительницы Дурги — это вам не шутки! Героям предстоит пройти через зловещие пещеры, где жили буддистские монахи, петляющие лабиринты с ядовитыми шипами, заброшенные храмы. Не останавливаясь ни на минуту, сразиться с «кусачими» деревьями, водяными каппами, сосущими кровь, и чёрными жуками размером с бейсбольный мяч. Никогда не знаешь, что ждёт отважных девушку и тигра за поворотом! Королева змей или оживающие статуи? А может, загадочный плод манго, исполняющий желания вместе с амулетом бессмертия?

Повествование вполне спокойное, темп ускоряется периодически лишь в самых кульминационных моментах. Читатели отдыхают вместе с героями, которые в одной главе беспечно нежатся на солнышке, размышляя о жизни, а в другой — полные сил, сломя голову, бросаются в мистический водоворот.

Главная героиня, семнадцатилетняя сирота Келси, живущая с опекунами, отправляется подрабатывать на лето в цирк. Маленькое семейное шапито предстаёт в романе как суетливый, но уютный уголок, где «правит» весёлый акробат итальянского происхождения — сеньор




Агостино Маурицио. Костюмы с блёстками, бурный и шумный поток детворы, разноцветные воздушные шарики — автор не останавливается здесь надолго, но позволяет прочувствовать атмосферу места, где перевернулась судьба девушки.

Ей кажется, что две недели пролетят незаметно — подумаешь, убираться на арене, выгуливать собачек, шарики продавать неугомонным детям. Но в цирке у Келси появляется друг, такой же одинокий, как и она. Нет, не мальчишка-подросток, а самый настоящий покровитель джунглей!

Тигр Рен с первых мгновений заворожил Келси: от него «веяло лёгким ветерком, напоённым ароматами ночного цветущего жасмина и сандалового дерева», вопреки научному скептицизму, он даже мурлыкал, смешно облизывал ей ладони, но главное… «Какие глаза! Гипнотические. Смотрят прямо в глубь меня, как будто видят мою душу». Келси стала навещать Рена, разговаривать с ним, читать ему стихи, а потом, отзывчивая к чужим бедам и всегда готовая помочь, отправилась ради его спасения в далёкую и неизвестную страну… Она ещё не знала, что под тигриной шкурой Дирена бьётся сердце необычайно красивого молодого человека, сильного, заботливого, храброго, благородного и надёжного. Коллин Хоук приготовила много неожиданных сюрпризов…

Легенда в книге гласит, что «давным-давно в Индии жил могущественный раджа, и было у него два сына. Одному из них раджа дал имя Дирен — сильный. Оба брата получили самое лучшее образование и прошли военную подготовку. Мать научила их любить свою землю и свой народ…» Любовь к одной женщине, прекрасной принцессе Джесубай, сделала из братьев соперников, а злой рок из-за предательства младшего, Кишана, превратил обоих в тигров — чёрного и белого.

Современные события тоже разворачиваются среди экзотических и манящих пейзажей страны контрастов и ярких красок. Сначала перед глазами читателей появляется Мумбаи, город на побережье Аравийского моря, калейдоскоп из белоснежных небоскребов и пёстрых лавочек, где продают всякую всячину, а ещё — абсолютно сумасшедшим движением на дороге! Читая, так и слышишь звуки ситар и перезвон колокольчиков, ощущаешь аромат риса басмати и лепёшки наан, пробуешь на вкус загадочный байган бхарта. Потом, вместе со сладкоежкой Келси, мечтаешь о кульфи — мороженом из орехов и свежих воздушных сливок или примеряешь голубое шёлковое индийское платье шарара, расшитое крошечными серебристыми жемчужинами.

Второй облик Индии в романе не столь приветлив, но так же притягателен — это джунгли. Ночная глушь, наполненная таинственными шорохами, исполинские деревья, утомлённые от жары, прыткие летучие белки, олени, мирно жующие траву, забавные макаки, здоровенные питоны с чёрными немигающими глазами. «Всё это было очень мило, но довольно страшно», — думает Келси.

«Проклятие тигра» — вовсе не сумасшедший экшн, а тёплая и волшебная история любви, нежной и робкой, но вместе с тем — сильной, не знающей преград. Дирен и его спасительница принадлежат к разным культурам, странам, эпохам, но между ними каким-то чудом пробегает «волна» притяжения, всё сметающая на пути.

Лёгкий электрический разряд от соприкосновения ладоней, хрупкий поцелуй, дорога в темноте, тихие вечера с томиком стихов Шекспира, купание в ослепительном водопаде, крепкий сон, совместное поедание батончиков среди знойных джунглей… Чутко, осторожно описывает автор зарождающиеся в юных сердцах чувства, без пошлости и абсолютно не банально. Не хмурьте лоб, будучи слишком серьёзными и взрослыми для этой истории, — позвольте себе очутиться в сказке!

**Мария ВОЙТИК**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Пахвала рэдактару

Я хоць і не рэдактар, але ўсё ж у пэўнай ступені падпадаю пад прафесійную дэфармацыю. Любы тэкст, што трапляе на вочы, пачынаю «прэпарыраваць» з пункту гледжання арфаграфіі, пунктуацыі і стылістыкі. Нават інструкцыю да вітамінаў рэдагую падчас прачытання.

Што ж тады казаць пра высокакваліфікаваных рэдактараў са шматгадовым досведам працы? Падаецца, яны нават свой унутраны голас гатовыя ацаніць на прадмет лагічнасці, стылю і граматнасці. Але ці многа засталося такіх спецыялістаў у сучасных выдавецтвах? Тут і хаваецца мая няўпэўненасць у тым, ці так ужо «грэшна», што сучасныя дзеці мала чытаюць. Адна справа — дарослы чалавек з веданнем правілаў. Але калі Саша ці Маша адкрываюць прыгодніцкі раман і сутыкаюцца як мінімум з пяццю памылкамі на адной старонцы тэксту…

Не імкнуся ўсхваляць савецкую мінуўшчыну, але чаго ў мяне дакладна не адняць, дык узроўню граматнасці. Пасля 1917 года айчынная літаратура ўзбагацілася аўтарамі, якім было пра што пісаць. Але вось пытанне граматнасці засталося адкрытым. У тыя гады падрыхтоўка рукапісаў патрабавала выпраўлення самых элементарных памылак. Максім Горкі у свой час казаў: «у нас у краіне ёсць людзі таленавітыя, але няграматныя». Менавіта на світанку савецкай літаратуры рэдактарская праца была практычна ідэнтычная карэктарскай.

Але час бяжыць. Сёння рэдактар — не толькі спецыяліст, які сочыць за стылем і канцэпцыяй друкаванага выдання. Практычна суаўтар! Прывесці да ладу думкі і ідэі аўтара недастаткова: часам трэба знайсці гэтага самага пісьменніка, ды яшчэ прымусіць яго працаваць па плане, а потым уважліва прасачыць кожны этап працэсу афармлення і друку. А ніхто ж не адмяняў супрацоўніцтва рэдактара з PR-аддзелам, камітэтамі розных прэмій…

Не буду нават аднязначна сцвярджаць, хто можа ў большай ступені лічыцца бацькам кнігі — аўтар ці рэдактар. Самае ж несправядлівае з пункту гледжання сусветнай гармоніі — намаганні рэдактара невядомыя чытацкай аўдыторыі, а дакладнасць, вывеpанасць і літаратурная каштоўнасць гатовай кнігі ўспрымаецца як нешта само па сабе зразумелае.

На жаль, у сучасным выдавецкім свеце яшчэ захоўваюцца многія тэндэнцыі 1990-х — калі колькасць была важнейшай, чым якасць, а папулярнасць тэмы перамагала над рэдактарскімі амбіцыямі. Але з'явілася і новая кагорта рэдактараў, якія называюць сябе літаратурнымі адвакатамі. Як, напрыклад, Алег Зоберн. У адным са сваіх інтэрв'ю ён кажа: «Выдатны тэкст недзе схаваны і амаль не мае шансу трапіць у калектыўную свядомасць, але аднойчы пачынаюць бліскаць маланкі, рассейваецца туман — і з'яўляюся я, прапаноўваючы падпісаць дамову».

Таму хочацца пажадаць усім нам — свята. Аўтарам — таленавітых знаходак, а рэдактарам — выверанаых рукапісаў!



## Маладзічок

# Сцежкай чароўнага лесу

Кніга Зінаіды Дудзюк «Лісце чароўнага лесу», што выйшла ў выдавецтве «Харвест», ахоплівае частку «літаратурнага лесу» — творы для дзяцей.

Дзіцячая аўдыторыя самая патрабавальная. Знайсці тое, што магло б сапраўды зацікавіць маленькіх чытачоў, няпроста. Але не для Зінаіды Дудзюк. Павучальныя творы пададзены ў лёгкай і зразумелай форме.

Аповесць «Лісце чароўнага лесу» казачная. Галоўныя героі тут багі. Маленькі чытач даведаецца, як узнік сусвет, адкуль з'явіліся людзі і жывёлы. Твор нават нечым нагадвае Біблію, але ў аснове ўсё ж славянская міфалогія.

Гаспадарылі б сабе багі і не ведалі бяды, але ў кожнай казцы ёсць і адмоўныя героі. Уладары свету цемры — змеі. Але, зразумела, перамагае дабро. Паміж багамі вiруюць жарсці, якія ўласцівыя людзям: яны таксама шчыра кахаюць і аддана сябруюць. Сюжэт прымушае рухацца далей па старонках твора: што ж далей?

Увагі заслугоўвае структурная пабудова аповесці. Твор складаецца з невялікіх па аб'ёме навел, якія выступаюць як асобныя гісторыі.




Але ёсць у кнізе і невялікія казкі: «Чароўны гадзіннік», «Зоркі, якія лётаюць», «Кароль слімакоў», «Канікулы на астэроідзе». Творы спадабаюцца як хлопчыкам, так і дзяўчынкам. Дзяўчатам у прыватнасці цікава будзе прачытаць гісторыі пра ўтварэнне чароўнага гадзінніка з кветак, пра каханне княжыча і маленькай зоркі. Хлопчыкаў зацікавяць казкі пра слімакоў, якія захацелі стаць куклянкамі і пра небяспечныя канікулы Яся, Юркі і Алесі на астэроідзе.

Кожная казка — урок, які вучыць быць адказным за свае словы, берагчы прыгажосць, не пакідаць сябра ў бядзе, не крыўдзіць слабейшага, быць верным каханню. Зінаіда Дудзюк піша настолькі зразумела і дасціпна, што яе творы будуць цікавымі нават самаму маленькаму чытачу.

Надзея ТАЧЫЦКАЯ

# Чатыры сланы і ніякай маны




Будзем знаёмы: Алена Мальчэўская. Чытач дасведчаны, праўда, гатовы запярэчыць. Пра якое знаёмства можна казаць, калі Алена — адзін з аўтараў «ЛіМа». Дый яе прозвішча часта напаткаеш у газеце «Звязда», часопісе «Мастацтва»… Яно так, але ў гэтых, а таксама ў іншых выданнях А. Мальчэўская выступае як тэатральны крытык — аўтар рэцэнзій на новыя спектаклі, грунтоўных артыкулаў, прысвечаных праблемам развіцця сучаснага сцэнічнага мастацтва. Гэтым разам заявіла пра сябе як дзіцячая пісьменніца: у Выдавецкім доме «Звязда» выйшла яе кніга казак «Ша-Ша з левага чаравіка».

У выданне ўвайшлі дзве сучасныя аповесці-казкі. Хоць, зразумела, справа не ў жанры. Хлопчыкам і дзяўчынкам куды важней, пра што гэтыя творы, чым яны вылучаюцца. У такім разе можна сказаць коратка: дзяцей чакае адкрыццё. З якога боку ні падыдзеш, тут усё арыгінальна: сюжэты — не заштампаваныя, прыгоды — не заезджаныя. Галоўнае — аўтарцы ўдалося знайсці менавіта сваіх персанажаў.

Найперш гэта тычыцца літаратурнага героя, што і даў назву кнізе: «Ша-Ша — пухнаты і круглы. Маленькі. Ён вылазіць з левага чаравіка ў розных дамах, каб навучыць таго, хто носіць гэтыя чаравікі, розным рэчам». Ша-Ша нейк трапіў і ў кватэру гераіні-апавядальніцы Светы. І вельмі здзівіў тым, што ўсё пра яе ведае: «Табе 26 гадоў. Ты працуеш біёлагам-селекцыянерам. Выводзіш новыя віды водарасцяў для таго, каб лячыць людзей. У дзяцінстве ты любіла чытаць кніжкі пра разведчыкаў і есці піроржныя «Карзіначка». Ты хочаш завесці сабаку. Спаніэля. І пасля таго, як атрымаеш заробак, пойдзеш набываць сандалі з тоненькімі раменьчыкамі».

Далей пра тое, як гэты Ша-Ша (апавядальніца прызнаецца: «Вечарам ціхенька, каб Ша-Ша не заўважыў, я на ўсялякі выпадак пагартала Вялікую Энцыклапедыю. Я не знайшла Ша-Шы ні сярод жывёл, ні сярод чароўных істот, ні сярод герояў казак. Паставіла кнігу назад на паліцу і падумала: цяпер у мяне ёсць сябра, пра якога ніхто не ведае») навучыў біёлага-селекцыянера Светы «тром рэчам». Якім — не скажу. Лепей, калі юныя чытачы даведаюцца пра гэта самі, пазнаёміўшыся з казкай «Ша-Ша з левага чаравіка». Зазначу толькі, што гэтыя «тры рэчы» ў аднолькавай ступені і незвычайныя, і зусім простыя.

У кнігу «Ша-Ша з левага чаравіка» ўвайшла і казка «Вера і шытыя сланы». Доктар Вера, галоўная гераіня твора, упэўнілася ў дзівоснасці жыцця пасля таго, як у яе «маленькім пакойчыку пасяліліся сланы». Не звычайныя, праўда, а шытыя. Ды істотнай розніцы няма, калі любіш іх. І ў кожнага слана — свая гісторыя.

Сітуацыі ў аснове сюжэта казачныя. Тым не менш вельмі набліжаныя да рэальнасці. Так магло быць! У дзяцей жа ўвогуле ніякага сумнення ў гэтым няма. Дзеці адчуюць: пісьменніца не маніць.

Дзякуючы здатнасці глыбока пранікнуць у псіхалогію юных чытачоў, Алена Мальчэўская і навакольны свет успрымае менавіта такім, якім бачаць яго хлопчыкі і дзяўчынкі, валодае багатай фантазіяй, што ў дзіцячай літаратуры вельмі важна. Застаецца павіншаваць аўтара з цікавай кнігай і пажадаць ёй новых твораў. Такіх, у якіх ніякай маны, а свет маленства раскрываецца з усім багаццем і непаўторнасцю фарбаў.

Ігар КУНЦЭВІЧ

# Майстар-клас. Краязнаўчы

Цікавасць да мінуўшчыны сваіх родных мясцін уласцівая кожнаму адукаванаму чалавеку. Таму краязнаўчыя даследаванні з'яўляюцца неад'емным складнікам гістарычнай навукі. Разам з тым сёння назіраецца тэндэнцыя, калі вывучэннем лакальнай гісторыі пэўных мікрарэгіёнаў, мястэчак ці вёсак часцей займаюцца прафесійныя даследчыкі са сталіцы ці вялікіх гарадоў, а не мясцовыя жыхары — краязнаўцы-аматары, настаўнікі і супрацоўнікі ўстаноў культуры. З аднаго боку, гэта цалкам лагічна, бо развіццё гуманітарных ведаў патрабуе ад навукоўцаў усё большай ступені спецыялізацыі ў іх працы. З іншага — такая тэндэнцыя насцярожвае, бо краязнаўства як сістэма вывучэння мікрарэгіянальнай гісторыі і побыту, а таксама трансляцыя гэтых ведаў новым пакаленням з'яўляецца адной з асноў захавання нацыянальнай ідэнтычнасці.

Аднак існуюць і прыемныя выключэнні. Адно з іх — дзейнасць Лепельскага раённага краязнаўчага музея, супрацоўнікі якога на чале з дырэктарам Алінай Стэльмах, нягледзячы на ўсе складанасці, не забываюцца і на адзін з галоўных кірункаў — вывучэнне старажытнай і найноўшай гісторыі краю.

Раз на два гады ў Лепельскім краязнаўчым музеі ладзіцца навуковая канферэнцыя «Лепельскія чытанні». У кастрычніку мінулага года — ужо ў шосты раз матэрыялы гэтай канферэнцыі апублікаваны ў канцы снежня (Лепельскія чытанні: матэрыялы VI навукова-практычнай канферэнцыі (Лепель, 17 — 18 кастрычніка 2014 г.) / рэдкалегія: Я. А. Грэбень, А. У. Стэльмах. Мінск: Медысонт, 2014).

У пэўным сэнсе шостыя «Лепельскія чытанні» сталі ўзорнай краязнаўчай канферэнцыяй, бо ў ёй узялі ўдзел як мясцовыя музейшчыкі і настаўнікі, так і даследчыкі з вядучых навуковых і вышэйшых навучальных устаноў Беларусі — Нацыянальнай акадэміі навук краіны, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава, Віцебскага абласнога краязнаўчага музея і іншых. Прычым сярод гасцей Лепельшчыны гэтым разам былі, у тым ліку, і шырока вядомыя спецыялісты — адзін з найаўтарытэтнейшых беларускіх знаўцаў гісторыі Сярэднявечча і Новага часу Валянцін Голубеў, этнолаг Уладзімір Лобач, археолаг і этнолаг Людміла Дучыц, даследчыкі найноўшай гісторыі Яўген Грэбень і Сяргей Новікаў. Сумесная справа такіх знаных адмыслоўцаў і мясцовых краязнаўцаў, без сумнення, пайшла на карысць удзельнікам канферэнцыі: госці даведаліся шмат новага, а мясцовыя даследчыкі не толькі пазнаёміліся з найноўшымі дасягненнямі айчыннай гістарыяграфіі, але і павысілі ўзровень методыкі сваёй працы.

Матэрыялы шостых «Лепельскіх чытанняў» будуць карыснымі для ўсіх зацікаўленых гісторыяй Лепельшчыны і ўсяго Беларускага Падзвіння.

Мікалай ПЛАВІНСКІ

# У новым фармаце



*«Успамінаючы рай».*

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Падчас адкрыцця выстаўкі госці атрымалі магчымасць пазнаёміцца з мастачкай, дазналіся пра яе творчы шлях. А. Сысун нарадзілася ў горадзе Крывы Рог (Украіна). Адукацыю атрымала ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. К. Глебава. Творца брала ўдзел у такіх буйных выстаўках, як «Biel Art. Панарама беларускага мастацтва», «Avant-gArte. Ад квадрата да аб’екта». Апошнім часам жыве ў манастыры. Алена Сысун прачытала вершы, якія асацыіруе з уласнымі работамі. Творчасць для яе — магчымасць падзяліцца радасцю і дабрынёй. Пракаментавала экспазіцыю мастацтвазнаўца Вольга Архіпава, якая адзначыла шчырасць і цеплыню калажоў.

Творы Алены Сысун ілюструюць шматлікія змесці, думкі. Іх нельга зразумець адразу — трэба ўглядацца, разважаць… Экспазіцыя прыйдзецца даспадобы тым, каго цікавіць усё філасофскае.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Час сведчыць

Праект «Архіў сведкі вайны» прадставіць Беларусь на 56-м Венецыянскім біенале сучаснага мастацтва.

Нацыянальныя павільёны прадстаўляліся на Венецыянскім біенале двойчы — у 2005 і 2011 гадах. Гэтым разам з 9 мая па 22 лістапада будзе прэзентавацца праект Аляксея Шынкарэнкі і Вольгі Рыбчынскай, які атрымаў перамогу ў конкурсе канцэпцый, арганізаваным Міністэрствам культуры. Журы ў складзе мастацтвазнаўцаў, крытыкаў, прадстаўнікоў творчых саюзаў аказалася ў складаных умовах: прапаноў было больш як 30, і ўсе вельмі цікавыя. Другое месца ў выніку было аддадзена праекту «Кінасеанс» Канстанціна Селіханава і Вольгі Рыбчынскай, трэцяе — «РэінкарНацыя» Рыгора Сітніцы.

Як адзначыла камісар нацыянальнага павільёна, дырэктар Цэнтра сучасных мастацтваў Наталля Шаранговіч, сярод удзельнікаў конкурсу куратарскіх канцэпцый шмат маладых аўтараў, студэнтаў, тых, хто праз некалькі гадоў будзе развіваць сучаснае мастацтва.

Асаблівасць праекта «Архіў сведкі вайны» ў тым, што наведвальнік становіцца не толькі гледачом — дзякуючы інфармацыйным тэхналогіям, а яшчэ і яго ўдзельнікам. Гэта праект пра чалавека, вайну, канфлікт, боль, неабыякавасць — фатаграфічны архіў Першай і Другой сусветных войнаў. Дакументальная фатаграфія становіцца сродкам камунікацыі, разбурае межы часу. Праект «Архіў сведкі вайны» будзе працаваць адначасова і ў мінскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Вытрымліваючы геаграфічную дыстанцыю, паміж дзвюма пляцоўкамі будзе абмен думкамі, пытаннямі і адказамі. Дапоўніць экспазіцыю павільёна мультымедыйная інсталяцыя Канстанціна Селіханава «Лес».

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Азірніся...



**Заклікае да гэтага выстаўка работ мастака, чыё жыццё, нягледзячы на фізічныя абмежаванні і перыпетыі лёсу, прыклад служэння мастацтву. Не стаўшы мастаком па прафесіі, Эдмунд Вялічка маляваў заўсёды, колькі сябе памятае, і шмат у чым гэта аказалася магчымым дзякуючы дапамозе і падтрымцы добрых людзей.**

Сёння ў яго светлых і паветраных акварэльных пейзажах ужо бачныя і аўтарскі почырк, і майстэрства. Але галоўнае, чым прыцягваюць працы, — шчырасць і прастасць, вытанчанасць і далікатнасць.

Азірніся! Побач выдатная прырода, першы снег або вясновы ручаёк, летняя спёка або восеньскі дождж. Побач — жыццё, кожным імгненнем якога гэты чалавек умее любавацца. Сацыяльны выставачны праект «Азірніся...» — сціплая спроба арганізатараў звярнуць увагу на тых таленавітых людзей, хто з прычыны фізічных абмежаванняў мае патрэбу ў нашай дапамозе і падтрымцы.

Усяго на выстаўцы ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва прадстаўлена больш як 40 работ Э. Вялічкі, галоўным чынам пейзажаў, выкананых у тэхніцы акварэлі, а таксама ўласнай унікальнай графічнай тэхніцы.

Эдмунд Вялічка нарадзіўся ў 1958 годзе на Віцебшчыне. Скончыў Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум, працуе бухгалтарам у бюджэтнай сферы. У 1986 годзе скончыў аддзяленне станковага жывапісу і графікі Завочнага ўніверсітэта мастацтваў (Масква).

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

## Фоташтрых



*Двухактовы дзіцячы балет «Дзюймовачка» — свята прыгажосці, незабыўных уражанняў і станоўчых эмоцый — прадставіла мінчанам і гасцям сталіцы «Балетная школа Вежнавец». У спектаклі бралі ўдзел каля 50 выхаванцаў студыі ад 3 да 8 гадоў. Лібрэта па матывах аднайменнай казкі Г. Х. Андэрсена напісала Таццяна Шпартава, кампазітар — Алег Хадоска, мастак-дэкаратар — Ілья Падкапаеў, рэжысёр-пастаноўшчык — Аляксандра Шпартава, пастаноўшчык-балетмайстар — заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Марына Вежнавец. Гледачоў уразілі таксама прыгожыя тэатральныя касцюмы, дэкарацыі і прафесійнае выкананне.*

## З нагоды

# Хуліганіць дазволена

Маштабнае свята для жыхароў і гасцей Магілёва рыхтуе юбілейны Х Міжнародны маладзёжны тэатральны форум «M@rt.кантакт», які пройдзе з 21 па 27 сакавіка.

У гэтым годзе фестываль стане сапраўдным святам для горада. Адукацыйную частку выраашана скарацiць, не будзе прафесійнага журы, традыцыйных майстар-класаў, — толькі шмат спектакляў і шырокая геаграфія ўдзельнікаў (Беларусь, Расія, Украіна, Польшча, Літва, Ізраіль, Германія, Эстонія, Арменія, Кіргізія). Гэта калектывы, якія найбольш ярка праявілі сябе на папярэдніх фэстах і заваявалі ўвагу публікі.

Усе спектаклі (а іх 19) абсалютна розныя. Каб захаваць эксперыментальную скіраванасць форуму, на малых сцэнах будуць паказаны нетрадыцыйныя пастаноўкі, дзе ёсць пошук формы, сродкаў, творчай мовы.

Па словах дырэктара Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Андрэя Новікава, на юбілейным фэсце арганізатары дазволілі моладзі «пахуліганіць». Цягам часу вакол форуму сфарміравалася ініцыятыўная суполка творчых маладых людзей. Пасля стараннага прагляду ўсёй праграмы і працы з гледачамі яны і выберуць лепшы маладзёжны спектакль. Што атрымаецца — пабачым у Дзень тэатра.

Праект стартаваў у 2006 годзе і стаў адным з самых значных культурных падзей не толькі ў Магілёве — на ўсёй тэатральнай прасторы Беларусі. Геаграфія фэсту шырокая: 122 паказаныя спектаклі з пятнаццаці краін свету! Глядацкая аўдыторыя — больш як 25 тысяч чалавек. У ліку заснавальнікаў форуму — Магілёўскі абласны выканаўчы камітэт, Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама, Магілёўскі абласны драматычны тэатр.

**Ганна ШЫМУК**

# Камандзір паэтычнай роты

Творца, які нягледзячы на цяжкія жыццёвыя выпрабаванні, валодае невычэрпным пачуццём аптымізму, а яшчэ — добры сябар і настаўнік, надзвычай светлы чалавек, заўсёды малады ў душы — усё гэта пра Міколу Аўрамчыка. Патрыярху беларускай літаратуры, паэту, празаіку, перакладчыку, літаратурнаму рэдактару 14 студзеня споўнілася 95 гадоў. «Сваёй дарогай запаветнай...» — так называлася імпрэза, прымеркаваная да юбілею пісьменніка, якая прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Мерапрыемства арганізавана сумесна з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры.



Фота Кастуся Дробава

Мікола Аўрамчык са скульптарам Іванам Міско.

У адной зале сабраліся прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі краіны, калегі-пісьменнікі, сябры Міколы Якаўлевіча: Васіль Зуёнак, Васіль Жуковіч, Казімір Камейша, Генрых Далідовіч, Анатоль Вярцінскі, Анатоль Бутэвіч, Раіса Баравікова, Вера Буланда і многія іншыя.

Нядзіўна, бо ў свой час праз сэрца юбіляра прайшлі сотні тысяч вершаваных радкоў некалькіх пакаленняў беларускіх літаратараў. Мікола Якаўлевіч працаваў у часопісе «Маладосць» на пасадзе рэдактара аддзела паэзіі ажно 27 гадоў — з 1953-га па 1980-я. Цяжка нават уявіць, колькі рукапісаў ён прачытаў. Уважліва, добразычліва, спагадліва. Недарабіў пры гэтым шмат свайго, вынашанага ў душы, бо імкнуўся спрыяць станаўленню маладых творцаў.

Звяртаючыся да прысутных, юбіляр адзначыў, што, на жаль, амаль страціў зрок, але вельмі рады пачуць знаёмыя галасы:

— Мне вельмі пашчасціла ў жыцці пасля вайны, калі я працаваў у «Маладосці». Да мяне прыходзілі паэты-пачаткоўцы — ды якія! Усіх цяпер нават не пералічу, але добра памятаю. Цікава, што многія з іх праз пяць — дзесяць гадоў сталі маімі кіраўнікамі у рэдакцыі, але нашыя адносіны не змяніліся. Ад іх вершаў і апавяданняў я быў і застаюся ў захапленні!

Творчымі настаўнікамі самога Міколы Аўрамчыка былі Аркадзь Куляшоў, Кузьма Чорны, Пімен Панчанка, Максім Танк, а на літаратурную дзейнасць блаславілі Якуб Колас і Янка Купала. Мікола Аўрамчык вядомы як пісьменнік, для якога і ў прозе, і ў вершах характэрны глыбіня, шчырасць і канкрэтнасць вобразаў. Акрамя таго, ён надзвычай добра піша ўспаміны і эсэ пра сяброў, паплечнікаў па літаратурным цэху. Адно з прысвячэнняў — паэту Васілю Зуёнку, які з ахвотай выступіў на імпрэзе:

— Перш-наперш у памяці паўстае сцэна у барысаўскім педвучылішчы, калі Мікола Аўрамчык прыехаў да мяне і іншых юнакоў разам з Іванам Шамякіным. Мы, пятнаццацігадовыя вясковыя хлапчукі і дзяўчаты, глядзелі на іх як на жывых класікаў, слухалі і захапляліся паэтычным і празаічным словам. Праз некаторы час мы сутыкнуліся з Міколам Якаўлевічам — разам працавалі ў «Маладосці». Ён ставіўся да мяне як да паэта, а не начальніка. Літаратурная школа ў яго была выдатная, але трэба ўзгадаць і ваенныя выпрабаванні, якія ён прайшоў! Баі на франтах Вялікай Айчыннай, палон, падзямеллі каменнавугольных шахтаў у Руры, а пасля ў Данбасе.

Васіль Зуёнак узгадаў паэтычныя падарожжы з Міколам Якаўлевічам па розных кутках Беларусі, а віншаванне сваё прадставіў ў выглядзе верша-прысвячэння пад назвай «Спрэчка», што сімвалізуе творчыя пошукі паэта.




Выстаўка твораў Міколы Аўрамчыка.

Не застаўся ўбаку і паэт Казімір Камейша:

— Калі выстраіць у адзін радок усіх, каго падтрымаў і выправіў у шырокую паэтычную дарогу Мікола Аўрамчык, атрымалася б магутная рота! На жаль, многіх яго вучняў ужо няма на свеце, але ўсе, хто яшчэ працуе ў літаратуры, памятаюць дарагога настаўніка. Я пазнаёміўся з Міколам Якаўлевічам больш як паўсотню гадоў таму, у 1960-я. Памятаю, як мы, студэнты-першакурснікі, адважыліся пайсці ў рэдакцыю «Маладосці». Доўга тапталіся каля дзвярэй, пакуль не выйшаў Мікола Якаўлевіч і не правёў нас у пакой, здагадаўшыся па тварах, што прынеслі вершы. Адчуваю і цяпер, нібы гэта было ўчора, як з хваляваннем даставаў з кішэні староначкі з вучнёўскіх сшыткаў... Мікола Якаўлевіч пабацькоўску слухаў, рабіў заўвагі. Я тады пісаў надта доўгімі радкамі. Ён прачытаў мае вершы і сказаў: «Ну гэта, хлопец, у цябе пройдзе». Так яно і адбылося...

Павіншавалі юбіляра цёплымі словамі, пажадалі здароўя і творчых сіл дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч і дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская.

Да вечарыны супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі кніжную выстаўку твораў пісьменніка і прэзентацыю слайдаў з архіўнымі фотаздымкамі, дзе творца побач з роднымі і калегамі.

Артыст і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі зачытаў урыўкі з твораў Міколы Якаўлевіча.

У якасці музычнага падарунка прагучалі песні на словы Яўгеніі Янішчыц у выкананні спявачкі Надзеі Бронскай і гітарыста Сяргея Міклашэўскага — «Ты пакліч мяне, пазаві» і «Лісток». Прысутныя пачулі таксама кампазіцыю «Завушніцы» на словы Максіма Танка і музыку Уладзіміра Мулявіна.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Іванава вайна

У межах святкавання 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна правялі тэматычны вечар «Вайна ў лёсе і творах Івана Чыгрынава», прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі, ураджэнца вёскі Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Івана Чыгрынава.

Вайна, якую будучы пісьменнік перажыў у родная вёсцы, пакінула багата ўражанняў, а пазней вызначыла тэматыку яго твораў. Народны паэт Беларусі Максім Танк падкрэсліваў, што ў чыгрынаўскіх раманах «праўда вайны і змагання з ворагам выяўлена глыбінна, на філасофскім узлёце думкі і мастацкага пісьма».

Падчас імпрэзы навучэнцам Магілёўскага дзяржаўнага абласнога ліцэя № 3 і чытачам бібліятэкі прадставілі літаратурна-музычную кампазіцыю ў суправаджэнні мультымедыйнай прэзентацыі пра жыццёвы шлях і творы І. Чыгрынава ваеннай тэматыкі.

Увазе прысутных прапанавалі кніжную выстаўку «Летапісец сваёй эпохі», якая адлюстравала лёс і творчую спадчыну пісьменніка. Сярод экспанатаў — кнігі з аўтографамі аўтара, фотадакументы, у тым ліку здымак 1991 года: Іван Чыгрынаў з чытачамі Магілёўскай абласной бібліятэкі.

**Тамара КАЛІНІНА, загадчыца аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

# Вернасць праўдзе

**Касцюкоўшчына — радзіма многіх беларускіх літаратараў і паэтаў. У тутэйшых мясцінах нарадзіўся Іван Чыгрынаў. Касцюковіцкая цэнтральная раённая бібліятэка з гонарам носіць імя свайго славутага земляка. На кожны юбілей Івана Гаўрылавіча сумесна з установамі культуры раёна кніжніца ладзіць святочныя мерапрыемствы.**

Памяці Івана Чыгрынава прысвячаюцца літаратурныя чытанні, віктарыны, выстаўкі, агляды, вечарыны, конкурсы. Штогод краязнаўчы фонд бібліятэкі папаўняецца новымі матэрыяламі: рукапісамі пісьменніка, фотаздымкамі, кнігамі з подпісамі і інш.

Да чарговага юбілею творцы ўстанова падрыхтавала метадычны дапаможнік «Вернасць жыццёвай праўдзе». Гэтае выданне адрасавана бібліятэкарам, настаўнікам, а таксама ўсім, хто цікавіцца творчасцю пісьменніка. Электронны дадатак змяшчае відэафільм «Іван Чыгрынаў». Выдадзены фотаальбом «Ішоў па зямлі чалавек» з унікальнымі здымкамі пісьменніка — дома, на адпачынку. Прадстаўлены здымкі, на якіх Іван Гаўрылавіч разам з выбітнымі пісьменнікамі: А. Куляшовым, І. Шамякіным, І. Мележам, І. Пташнікавым, М. Танкам, К. Крапівой і інш. Гістарычную каштоўнасць мае фота 1992 года, калі пісьменніку прысвоена званне «Ганаровы грамадзянін г. Касцюковічы».

У бібліятэцы пастаянна дзейнічае экспазіцыя, прысвечаная Івану Чыгрынаву. Летась яна папоўнілася новымі матэрыяламі. Упершыню дэманструюцца рукапісы, ксеракопія працоўнай кніжкі. На выстаўцы можна пазнаёміцца з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 25 сакавіка 1994 года «Аб прысваенні Чыгрынаву І. Г. ганаровага звання «Народны пісьменнік Беларусі», з пастановай кабінета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 жніўня 1996 года «Аб увекавечанні памяці народнага пісьменніка Беларусі Чыгрынава І. Г.», прысваенні Касцюковіцкай цэнтральнай бібліятэцы яго імя.

80-гадовы юбілей свайго земляка касцюкаўчане адзначылі вечарынай, якая праходзіла ў раённым Цэнтры культуры. Успамінамі пра пісьменніка падзялілася жонка Людміла Прохараўна, старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў. Выступленні ганаровых гасцей чаргаваліся з паэтычна-музычнымі нумарамі ў выкананні творчых калектываў раёна.

Падчас імпрэзы прысутныя азнаёміліся з выстаўкай «Адтуль, з бацькоўскага парога…», на якой былі прадстаўлены асабістыя рэчы І. Чыгрынава.

Да святкавання юбілею пісьменніка быў аб'яўлены конкурс творчых работ сярод навучэнцаў Касцюковіцкага раёна «З любоўю да роднага краю» ды віктарына «Творчая і грамадская дзейнасць Івана Гаўрылавіча Чыгрынава». Пераможцам Людміла Чыгрынава падаравала кнігі з хатняй бібліятэкі, уручыла дыпломы і сувеніры.

**Тамара КОРШУНАВА, загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Касцюковіцкай цэнтральнай бібліятэкі імя І. Чыгрынава**

# Скарбонка касаўская

Прага ведаў штурхае да новых абсягаў. «Дапытлівы компас» прывёў у горад Косава, што на Івацэвіччыне Брэсцкай вобласці.

Сусветную славу гэтым мясцінам пакінуў знакаміты Касаўскі палац паблізу доміка, дзе нарадзіўся палітычны і ваенны дзеяч Тадэвуш Касцюшка. Летась Косава адсвяткавала 520-гадовы юбілей. Як жа выстаяла?

З 1939 года існуе ў Косава бібліятэка. Скарбонку летапісаў горада актыўна папаўняе краязнаўчы музей пры бібліятэцы. Матэрыялы мінулага прадстаўлены на кніжных выстаўках «Скарбы роднай зямлі», «Як узнікла горада імя», «Косава. З гісторыі горада».

Першыя звесткі пра Косава адносяцца да 1015 г., калі яно ўваходзіла ў склад Тураўскага княства. У XIX стагоддзі гэта ўжо цэнтр воласці Слонімскага павета Гродзенскай губерні.

6 лістапада 1920 г. з гмін (вёсак) Івацэвіцкага, Слонімскага, Пінскага паветаў утвораны Касаўскі павет. Аказваецца, адміністрацыйным цэнтрам тады былі не Івацэвічы (1500 чалавек), а мястэчка Косава (больш як 3700 жыхароў) за 15 кіламетраў ад горада. Праўда, з цягам часу Косава саступіла месца Івацэвічам — сённяшняму райцэнтру, які сёлета адзначае 75-годдзе з дня заснавання.




*Тамара Мартынкевіч, бібліятэкар Касаўскай гарадской бібліятэкі.*

Складаны лёс і бібліятэкі: знішчаная падчас вайны, у 1947-м была адкрыта як прыклубная. У канцы 1959-га перайменавана ў сельскую, а праз пяць год — у Касаўскую гарадскую бібліятэку. Кніжны фонд тады складаў усяго 1500 экзэмпляраў. А сёння — амаль 29 тысяч, у тым ліку 151 электронны дакумент. Наведвальнікаў абслугоўваюць бібліятэкары Тамара Мартынкевіч і Таццяна Папко. Тамара Пятроўна працуе тут з 1988 г. і здолела зрабіць кніжніцу сапраўдным цэнтрам культуры.

Пры бібліятэцы працуе клуб па інтарэсах «Чараўніцы». Чарговая сустрэча на пачатку года «Зіма з маразамі, святы — з гуляннямі» сабрала тых, хто любіць і шануе кнігу, народныя песні, народную творчасць.

Традыцыйна год адкрываюць калядныя сустрэчы «Прыйшлі святкі да нас на калядкі». Цікавай атрымалася імпрэза «Душы чаравальныя радкі» сумесна з Домам культуры. Такія мерапрыемствы вельмі спрыяюць творчым стасункам, дапамагаюць тым, хто апынуўся ў цяжкім душэўным стане.

Цікава і карысна арганізоўвае Тамара Мартынкевіч вольны час чытачоў 16 — 25 гадоў, а іх больш як 120 чалавек! Моладзі ў бібліятэцы — асаблівая ўвага. І ёсць чым пахваліцца: у музеі бібліятэкі дэманструюцца малюнкі з выявай Косава студэнтаў Брэсцкага педагагічнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна.

Праяўляюць сябе і маленькія чытачы. Ініцыятывай Тамары Пятроўны створана Кніга даверу, што ў дзіцячым пакоі. Юныя эрудыты дзеляцца парадамі, якую кнігу варта пачытаць, пакідаюць водгукі, абменьваюцца ўражаннямі: «Раю выбіраць кнігі не па прыгожых вокладках, а па змесце» ці: «Чытайце ўсе! Э. Войніч «Авадзень». Цікавая кніга. Чытайце!» Эмацыянальна, шчыра, весела — і найлепшым чынам заахвочвае да чытання.

Тамара Мартынкевіч адзначае: «Раней аўтарытэт бібліятэкі залежаў ад якасці кніжнага фонду, а цяпер і ад і электронных носьбітаў інфармацыі. Але нягледзячы на камп'ютарызацыю, людзі цягнуцца да друкаванай кнігі».

Асартымент — на любы густ! Кніжны фонд папаўняецца з дапамогаю Брэсцкай абласной бібліятэкі, Брэсткнігі, дзякуючы «Выдавецкаму дому «Звязда», выдавецтвам «Беларусь», «Беларуская навука», «Мастацкая літаратура», «Харвест», «Народная асвета» ды інш., індывідуальным і прадпрымальнікамі. Дораць кнігі і чытачы.

На працягу многіх гадоў работнікі бібліятэкі збіраюць матэрыялы пра ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай. 2014 — 2015 гады ў жыцці краіны азнаменаваны 70-й гадавінай вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Касаўская гарадская бібліятэка не стаіць убаку ад гэтых падзей. У мясцовай школе праведзены ўрок гісторыі «Пакуль жывая памяць».

Абнаўляецца і выстаўка «Пісьменнікі — нашы земляки». Адзін з іх, Кандрат Лейка (канец XIX— пачатак XX ст.), пачынаў пісаць у Косаве. З гэтымі мясцінамі звязана дзейнасць Піліпа Пестрака. Тут знаходзіў сюжэты і натхненне Яраслаў Пархута. Руплівы збіральнік беларускага фальклору, краязнаўца Алесь Зайка скончыў Касаўскую сярэднюю школу. Цяпер загадвае школьным этнаграфічным музеем у вёсцы Заполле. Выдаў кнігі «Дым з коміна» (2011), «Населеныя пункты Івацэвіччыны» (2012), «Дыялектны слоўнік Касаўшчыны» (2011) і інш. Ёсць у кніжніцы і краязнаўчая картатэка «Цікавыя людзі Косава».

Не застаецца па-за ўвагай бібліятэкі і творчасць мясцовых майстроў народнай творчасці: выдадзены буклет пра народных умельцаў Косава «Залатым рукам няма спакою». Доўгачаканай падзеяй стаў выхад калектыўнага зборніка мясцовых паэтаў «Калі душа нарадзілася крылатай…» Кніжніца ганарыцца знанымі землякамі і выяўляе новыя таленты Косаўшчыны.

**Наталля СВЯТЛОВА, фота аўтара**

# Сцэнар на заўтра

Творчая вечарына Зінаіды Арцюховіч адбылася ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага. Імпрэза сталася працягам ініцыяванага кніжніцай праекта «Яны ўзбагацілі культуру Гродзеншчыны».

Зінаіда Мікалаеўна — сцэнарыст і рэжысёр тэатралізавана-відовішчных мерапрыемстваў, неардынарны і цікавы чалавек. Летась, падчас святкавання 70-годдзя Гродзеншчыны яе імя ўвайшло ў Кнігу славы Гродзенскай вобласці.

Нарадзілася Зінаіда Арцюховіч на Віцебшчыне, у г. Лепелі, у сям'і чырвонага камандзіра. Пасля чарговага пераводу бацькі сям'я апынулася ў Віцебску, затым — у Гродне, дзе перажыла фашысцкую акупацыю. Пасля вайны скончыла з залатым медалём сярэднюю школу № 1. Пра школьныя гады сяброўкі распавяла аднакласніца і калега па Гродзенскім культасветвучылішчы, цяпер выдатнік адукацыі Беларусі Валянціна Краўцэвіч.

У 1954-м Зінаіда паступіла на гістарычна-філалагічны факультэт Гродзенскага педінстытута. У студэнцкія гады прысвяціла сябе самадзейнай сцэне, была ініцыятарам, арганізатарам і нязменнай вядучай інстытуцкіх імпрэз і вечарын, удзельнічала ў тэатральным калектыве. Скончыўшы інстытут з чырвоным дыпломам, пачала працаваць выкладчыкам гісторыі Жытамлянскай сярэдняй школы. Была вядучай серыі канцэртаў Гродзенскай вобласці на Беласточчыне.

Арганізатарскія здольнасці Зінаіды Мікалаеўны не засталіся незаўважанымі: з 1960 г. працавала метадыстам па тэатральнай самадзейнасці Гродзенскага абласнога Дома народнай творчасці, пазней старшым метадыстам.

З 1968 года — выкладчык клубазнаўства і сцэнарнага майстэрства ў Гродзенскім культасветвучылішчы. Дарэчы, вучэбны план па сцэнарным майстэрстве давялося распрацоўваць самастойна, бо яна стала першым выкладчыкам гэтай дысцыпліны. А ў 1980-м З. Арцюховіч вярнулася ў Гродзенскі абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культасветработы на пасаду намесніка дырэктара па культасветрабоце. Пра гады яе працы ўспаміналі на імпрэзе былыя калегі і навучэнцы.

У 1988-м Зінаіда Мікалаеўна стала начальнікам аддзела ўстаноў культуры, народнай творчасці і мастацтва аблвыканкама. Сярод арганізаваных ёю мерапрыемстваў — Міжнародны фестываль народных тэатраў Прыбалтыкі і Беларусі «Рампа дружбы-88», святы, прысвечаныя 500-годдзю Дзятлава і Смаргоні, 750-годдзю Слоніма і Свіслачы, Першае абласное свята работнікаў культуры, фальклорнае свята «Мірскі кірмаш». Менавіта ёй належыць ідэя правядзення ў Гродне фестывалю нацыянальных абрадаў, які пазней набыў статус рэспубліканскага.

Падчас творчай вечарыны працавала кніжна-дакументальная выстаўка, дзе былі прадстаўлены ўзнагароды, артыкулы з энцыклапедычных і перыядычных выданняў, фотаздымкі, прысвечаныя жыццю і творчасці Зінаіды Арцюховіч.

***Любоў ТУРМАСАВА,***
***загадчык аддзела краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага***

# Мастак і міфы

**У студзені мастаку Аляксандру Ісачову споўнілася б 60 гадоў.**

З дня смерці А. Ісачова прайшло амаль 30 гадоў, а спрэчкі пра пакінутую ім спадчыну не сціхаюць. Жыццё творцы было насычана драматычнымі, трагічнымі падзеямі. Яго замоўчвалі, забывалі, а часам і цкавалі. Шлях выпрабаванняў і пакут — гэта лёс сапраўднага таленту.

Супрацоўнікі Рэчыцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі ўжо шмат гадоў збіраюць інфармацыю пра жыццё і творчасць земляка. Краязнаўчы фонд папаўняецца новымі матэрыяламі. Штогод да дня яго нараджэння ў кніжніцы праходзяць вечарыны памяці. На сёлетнюю імпрэзу, да якой была прымеркавана выстаўка «Мастак зямлі Рэчыцкай», завіталі навучэнцы Рэчыцкага раённага ліцэя. Старшакласнікі пабачылі рэпрадукцыі найбольш вядомых карцін мастака, а з відэафільма даведаліся пра жыццё і творчыя пошукі жывапісца.

На сайце Цэнтральнай раённай бібліятэкі можна віртуальна наведаць выстаўку «Творца ўласнага міфа (да 60-годдзя з дня нараджэння А. Ісачова)».

**Кацярына СУПРАНОК**

# Рамантыкі пэндзля

Выстаўка «Сустрэча» адкрылася ўчора ў мастацкай галерэі «Вільнюс», што працуе пры бібліятэцы № 18. Удзельнікі праекта — мастакі, якія дэманструюць тут свае работы пачынаючы з 1997 года.

Сярод 16 аўтараў — Мікалай Ісаёнак, Віталь Чарнабрысаў, Сяргей Пыжыкаў, Уладзімір Сытчанка, Уладзіслаў Пятручык, Юрый Яскевіч, Генадзь Капусцін і іншыя. Дарэчы, Мікалай Ісаёнак прадставіў у 1997-м першую экспазіцыю ў галерэі і тым самым задаў тон для далейшых выставак.

Прыхільнікам мастацтва ўдзельнікі сёлетняй выстаўкі прапануюць больш як 50 работ: жывапіс, акварэль, графіка. Тэматыка лірычная, у чымсьці рамантычная. Хутка многія з нас будуць святкаваць Дзень Святога Валянціна. Мэта выстаўкі — аб'яднаць у адной зале майстроў пэндзля розных напрамкаў, каб данесці да гледача багацце і разнастайнасць сучасных тэндэнцый у айчынным мастацтве.

**Бажэна СТРОК**

# Кніжны клуб

Днямі ў Сенніцкім Доме культуры ўганараваны лаўрэаты Арт-прэміі — работнікі культуры Мінскага раёна. Па выніках 2013 — 2014 гг. пераможцам у намінацыі «Лепшы загадчык бібліятэкі Мінскага раёна» стала загадчыца Гатаўскай сельскай бібліятэкі-клуба Іна Урбан, якая працуе тут ужо 20 гадоў.

Іна Аляксандраўна укладвае ў працу шмат сіл і натхнення. Праводзіць у кніжніцы гуртковыя заняткі для школьнікаў, майстар-класы па рукадзеллі для дарослых…

Гатаўская кніжніца — сапраўдны інфармацыйны цэнтр. Сюды прыходзяць не толькі па кнігі, але і па карысныя парады.

**Дзіяна ШАРУК**

# На плакаце жыцця

**Міжнародны маладзёжны конкурс плаката патрыятычнай тэматыкі, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі, аб'яднаў удзельнікаў з сямі краін СНД.**

Журы прыйшлося ацэньваць трыста восемдзясят мастацкіх прац на гераічную тэматыку — такую неспадзяваную папулярнасць сярод моладзі набыло творчае «спаборніцтва». У другі тур, апошні перад вызначэннем пераможцаў, трапілі сто шэсцьдзясят сем плакатаў. Ацэньвалі іх у асноўным спецыялісты па дызайну, знакамітыя мастакі Беларусі, Казахстана, Арменіі, Расіі.

Рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна паведаміў, што



ўдзел у конкурсе быў абсалютна адкрытым, незалежным ад адукацыі: паспрабаваць свае здольнасці маглі ўсе жадаючыя ва ўзросце да 35 гадоў, а таксама творчыя калектывы.

«Конкурс праходзіў амаль тры месяцы — у маладых людзей быў час, каб падумаць і засяродзіць увагу на тым, што яны хочуць сказаць, знайсці найбольш выразныя сродкі для ўвасаблення сваіх ідэй. Бо галоўная мэта — сродкамі плаката, гэтага сінтэтычнага віду мастацтва, праявіць свой творчы патэнцыял і, канечне, патрыятызм. А нашай задачай было выяўленне таленавітай моладзі», — адзначыў рэктар.

Міхаіл Баразна падкрэсліў, «што конкурс адметны, перш за ўсё, сваімі шырокімі маштабамі — амаль з 1990-х гадоў сярод краін СНД творчыя мерапрыемствы такога кшталту не праводзіліся».

70-годдзе Перамогі — падзея, якая аб'яднала ўсе працы. Але не адзіная! Плакаты прысвечаны патрыятычнай тэматыцы ўвогуле, праблемам грамадства самага шырокага дыяпазону, і некаторыя з іх могуць




па праве называцца сацыяльна арыентаванымі.

Пры ацэнцы прац улічвалася арыгінальнасць аўтарскага бачання, кампазіцыя, тэхніка, якасць выканання, а таксама ідэя, здольная ўздзейнічаць эфектыўна.

Колькасць пераможцаў, на думку Міхаіла Баразны, традыцыйнымі трыма месцамі не абмяжуецца. Журы абяцала прызначыць і спецыяльныя



прызы. З лепшымі творамі можна будзе пазнаёміцца на тэматычнай экспазіцыі плаката падчас працы XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў лютым, а таксама на сайце Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Арганізатарамі конкурсу сталі Міністэрства інфармацыі, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда». Партнёрамі выступілі Ерэванская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Маскоўскі ўніверсітэт друку імя Івана Фёдарава, Уральская дзяржаўная архітэктурна-мастацкая акадэмія.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Амазонкі — вартавыя фантазіі

**Сучаснае прачытанне класічнай скульптуры з бронзы, маштабныя фігуры выдатных дзяўчын-ваяўніц, каляровая графіка і незвычайны аўтарскі падыход да разумення жаночай сутнасці ў навакольным свеце — усім гэтым дзеліцца з гледачом вядомы беларускі мастак Андрэй Асташоў на выстаўцы «Дзявочы дазор» у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.**



*Фота Кастуся Дробава*

*«Паляўнічы». 2013 г.*

— Міфы пра амазонак натхнялі мастакоў Рэнесансу, паэтаў і драматургаў «залатога веку» іспанскай літаратуры. Ва ўсходняй традыцыі варта згадаць японскіх жанчын-ніндзя, якія ўвайшлі ў гісторыю пад паэтычным імем «кунаіці» — «смяротныя кветкі». Вобраз жанчыны, узброенай «лукам і стрэламі», папулярны і сёння, — адзначыла мастацтвазнаўца Кацярына Ізафатава.

Але самае галоўнае — аўтарскае прачытанне. У скульптурах А. Асташова мы не ўбачым традыцыйны вобраз «драпежнай амазонкі». У пластыцы яго гераінь няма і цені пагрозы, нягледзячы на поўную баявую амуніцыю. Гэта вартавыя, але вартавыя ўяўлення, гульні, анёлы-ахоўнікі аўтарскіх мар і фантазіі.



*«Дзявочы дазор». 2014 г.*

Каб ахоўваць гэты эфемерны ўнутраны свет Андрэй Асташоў стварыў цэлы скульптурны атрад. Не змяняючы свaёй галоўнай тэме — вобразу маленькай дзяўчынкі, мастак знайшоў новыя формы адлюстравання, трансфармуючы «мілую і гарэзлівую прыгажуню» ў падлетка, што гуляе ў дарослыя гульні. Мастак трапна дадае розныя атрыбуты: ад зброі і даспехаў да гіпербалізаванага падоўжанага галаўнога ўбору ў стылі фантастычнага рэалізму Ганса Рудольфа Гігера з яго знакамітым персанажам «Чужы».

У гэтым праекце амплуа Асташова-скульптара дапаўняецца графічнымі працамі. Праўда, тут майстар бярэ ў якасці прадмета даследавання стыхію дзіцячых гульняў. Творы прыцягваюць шчырай улюбёнасцю ў мілыя сэрцу падрабязнасці дзяцінства: плюшавыя цацкі, карнавальныя маскі, гульні ў хованкі.

Варта адзначыць шырокую геаграфію вобразаў мастака. Яго цікавяць і Еўропа, і Азія, і Амерыка... І абавязкова — міфалагічны свет. У «ўяўным музеі» творцы можна выявіць стылістыку маньерызму, ракако і арт-дэко. Але больш за ўсё адчуваецца цікавасць да арыенталізму, што выяўляецца ў вытанчаных выцягнутых сілуэтах.

Пры гэтым скульптар стварае своеасаблівыя варыяцыі на тэму «гісторыі мастацтва». Працы майстра зачароўваюць і інтрыгуюць, іх хочацца расшыфроўваць.

Падчас адкрыцця персанальнай выстаўкі аўтар перадаў у падарунак Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі дзесяць скульптур з серыі «Дзеці», створаных у 2011 годзе.

Андрэй Асташоў — першы айчынны скульптар, які прадставіў сучаснае мастацтва Беларусі ў прэстыжных залах Дзяржаўнага Рускага музея ў Санкт-Пецярбургу ў 2013 годзе. У тым жа годзе ўганараваны прэміяй у галіне мастацтва «Вера» ў намінацыі «За шырыню задумы і грандыёзнасць увасаблення» па выніках VII Маскоўскага міжнароднага фестывалю мастацтваў «Традыцыі і Сучаснасць».

**Таццяна ШЧЭРБА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2263.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 29.01.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1456 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686